
Мікалай БУШКО→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Цеханавецкі аспект→9

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (2973) Год LVIII | Беласток, 5 мая 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Хрыстос Ўваскрос!



# Сапраўды Ўваскрос!

**Велікодных Святаў, поўных Веры, Надзеі і Кахання ў вясновым, радасным настроі, а таксама сардэчных сямейных сустрэч, усім нашым Чытачам жадае**

Рэдакцыя

Натальля АРСЕНЬНЕВА

## РАДАСЬЦЬ

Адтрымцела — у гневе — зямля...
Сплыў натоўп, правіць сьвята, у сховы...
Змрок прыпоўз на Крыжовы Шлях,
твар паклаў на сьлядох Хрыстовых...
Чорны ветразь накрыў магіл
скальных шчырбы, муры, гасьцінец...
Нат Гальгота —
вось-вось вуглі
познай весьняй пагары ськіне.
Тлее жухла йшчэ толькі крыж,
той, зь якога із плачам
Сына
цела Маці зьняла... Гарыць
ён, як боль Ейны,
ці астыне...
І здаецца крыжу — не, крыжом
(два ўсьцяж злыдняў трымаюць поруч) —
ня стрываць
ані ім ужо,
ні шырокаму сьвету — гора...
Ён сканаў —
дык сканала ўсё.
І дармо той сявец ці араты
ніву кратаў, дармо ля красён
гнулі пругкія плечы дзяўчаты,
ткала парасткі весьняя ноч,
слалі кагаркі гнёзды на скалах,
адплывала на ловы чаўно, —
ўсё дармо,
бо-ж Яго ня стала!
Ды ці-ж знаюць,
хай ноч, хай сявец,
што ад Госпада
наканавана?
Басанож, па сьцюдзёнай траве
міраносіцы беглі
саван
зьняць з прабітага Цела, зрасіць
і сьлязьмі, і пахошчамі раны —
а Сын Божы —
ці-ж веры дасі! —
уваскрос!
Уваскрос! Гасанна!
Крылы вецер раськінуў, узьняў
над крыжамі й паплыў
даляглядам
весьціць радасьць Вялікага Дня,
Уваскрошаньня сьветлую радасьць.
Радасьць скрозь,
бо-ж на сьвеце вясна,
сонца, наквець, вясновыя ліўні...
Расшуміцца й Табе яна,
край мой родны
і незабыўны!

9 770546 196000



# Суботнік

У Беларусі прайшоў чарговы агульнарэспубліканскі суботнік. Дзяржаўныя СМІ доўга і з фанатызмам абмяркоўвалі гэтую падзею, надаючы ёй арэол высокай агульнанацыянальнай свядомасці жыхароў сінявокай і масавай падтрымкі грамадзянамі і грамадзянкамі нашай краіны не толькі самой з'явы, але і ўсёй ідэалагічнай падаплёкі, звязанай з правядзеннем суботніка.

Старэйшае пакаленне памятае суботнікі яшчэ з савецкіх часоў. Менавіта тады былі надзвычай істэрычныя спробы надаць гэтаму мерапрыемству хоць нейкі ідэалагічны сэнс. У нас можна было сфілоніць школьнікам школьныя заняткі, рабочым не прыйсці на працу, служачым у працоўны час лазіць па крамах і нікому гэта нічым сур'ёзным не пагражала. Але вось калі хто не ўдзельнічаў у такой добраахвотнай справе як суботнік, то за такое маглі і са школы паперці, і з работы выкінуць і зганьбіць у якой-небудзь насценнай газеце. Суботнік мусіў паказаць еднасць савецкага народа і яго падтрымку ідэям партыі. І хоць усе смяяліся з тых суботнікаў, то прыходзілі, каб проста паказацца на вочы начальству і потым з калегамі купіць пляшку горкай, а прапаганда падавала ўсё належным чынам. Ну а людзі, выпіўшы, спявалі перароблены песні кшталту „Ад суботніка да суботніка дробны дождж ідзе..." і расказвалі анекдоты пра тое, што аднойчы Ленін адмяніў суботнік, бо белыя скралі яго надзьмутае лёгкім газам гумовае бервяно, якое той дэманстратыўна насіў туды-сюды на плячы падчас усесаюзных суботнікаў.

Але як людзі не высмейвалі гэтую з'яву, яны не змаглі пераўзысці тупасці тагачасных ідэолагаў. Дастаткова хоць бы глянуць на шматлікія карціны, дзе Ленін працуе на суботніках. Уладзімір Ільіч з карціны ў карціну сапраўды цягае тое бервяно. То з рабочымі яго валачэ некуды, то з чырвонаармейцамі. Але бервяно заўсёды чысценькае, як бы вымытае адмыслова для гэтай падзеі. Сам важак сусветнага пралетарыяту, апрануты ў троечку з белай кашуляй, таксама па прыгажосці не саступае бервяну. І мы на суботніках у школе таксама жартаўліва пыталіся ў настаўнікаў, чаму мы працуем не ў касцюмах, і чаму нам ніхто перад суботнікам не памыў бярвенні. Тыя толькі ўсміхаліся або барматалі нешта кшталту „пагавары ў мяне яшчэ тут..." і нецярпліва паглядвалі на гадзіннікі, чакаючы, калі ўжо гэты абсурд скончыцца.

Толькі аднойчы нехта, відаць, данёс вышэйшаму начальству, што дзеці смяяліся з Леніна на суботніку. І тады ў школе былі праведзены адмысловыя заняткі, на якіх гаварылася пра тое, што Ленін быў за бедных і хацеў, каб бедныя жылі добра. Нехта з вучняў запытаў удакладніць як гэта магчыма, каб бедным было добра, і можа Ленін хацеў, каб бедныя сталі багатымі. Але збянтэжаная настаўніца не пагадзілася з такой трактоўкай. Сказала, што багатых Ленін не любіў. Любіў бедных. І хацеў, каб ім было добра. Як бедным можа быць добра, пакуль яны не пабагацеюць засталося гэтакай жа загадкай як і тое, ці было бервяно надзьмутым. Але вось сувязь наяўнасці суботнікаў з адменай выходнага ў Вялікдзень цалкам відавочная. Як былі суботнікі, то Вялікдзень не лічыўся святам для савецкай улады. Як Беларусь аднавіла незалежнасць, суботнікі адмянілі, а другі дзень Пасхі зрабілі святочным. Як прыйшла сённяшняя ўлада, на другі дзень велікодных святаў людзі сунуцца на працу. Затое зноў аднавіліся суботнікі.

Ці было каму цікава суботнічаць гэтым разам сцвярджаць не бяруся. Затое як цікава было слухаць беларускіх тэлекаментатараў, якія выглядалі як каментатары паўночнакарэйскага тэлебачання. Тварьі ў іх набылі надзвычай ідэйныя выразы, хоць ніхто так і не растлумачыў у чым там ідэя, і зараз ці трэба нам любіць бедных, ці старацца, каб яны пабагацелі. Затое мы паўзіраліся, як уручную садзяць лес, рыдлёўкамі робяць працу трактара і цешацца з факту масавага ўдзелу ў няважна якой падзеі. Ну а пра тое, што суботнікі так і не выратавалі ні эканомікі Савецкага Саюза, ні самога СССР ніхто гаварыць не стаў. Бо можа раптам нехта ў гэтым угледзіць недвухсэнсоўны намёк?

**Віктар САЗОНАЎ**



# Час неспакою

Гледзячы на польскім тэлебачанні інфармацыйныя праграмы, з неспакоем гляджу на акружаючы свет ды краіну, у якой мы жывем. Безумоўна, у духоўным плане маёй радзімай з'яўляецца Беларусь, але ў даслоўна фізічным плане мая радзіма — Польшча. Гэта я Польшчы, як радзіме, вельмі ўдзячны за сваю адукацыю, за ахову здароўя ды за працу і за тое, што тут мірна пражываюць многія народы, розныя веравызнанні.Тут я жыву, працую, пішу.

Аднак у глыбіні сэрца нешта мяне мучыць, ды не дае спакою. Нібыта маем дэмакратыю, пашану ўсіх народаў ды веравызнанняў, а таксама светапоглядаў, але ці мы сапраўды свабодныя? Апошнім часам палохаюць мяне праявы нацыяналізму, а таксама фашызму, якія становіцца сусветнай праблемай.

Пасля забойства 68 чалавек, якое 22 ліпеня 2011 года ўчыніў Андэрс Брэйвік, фашысты ўсяго свету маюць свайго мучаніка ды бацьку не так новай ідэалогіі. Нацыяналістычныя групоўкі гэта праблема ўсіх краін дэмакратычнай Еўропы. Калі пасля 1989 года праваліўся камуністычная сцяна ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, то ў народах новых дэмакратычных сістэм узрасло пачуццё нацыянальнай вартасці і гэта спрычынілася да адраджэння нацызму.

Як я згадаў раней, нацыяналізм гэта не толькі з'ява нацыянальнага маштабу, але пры тым пагроза новай рэвалюцыі, а нават вайны. Часы сусветнага крызісу адлюстраваў Эрых Марыя Рэмарк. Другая сусветная вайна была вынікам сусветнага эканамічнага крызісу, які прайшоў праз Еўропу ды ЗША ў 1930-х гадах. Выклікала гэта фашысцкую дыктатуру. Фашысты пачалі шукаць вінаватых і назвалі імі нацыянальныя меншасці. З'явіліся спартанскія метады знішчання хворых адзінак грамадства, якія нацысцкай уладзе былі непатрэбнымі.

Вельмі падобны фашызм да камунізму ў тым, што коштам голаду грамадства ўзбройваецца дзяржава. Гляньма, што зараз адбываецца ў Паўночнай Карэі. Цалкам нядаўна я чытаў, што ў Паўночнай Карэі голад прыводзіць людзей нават да канібалізму. Адносна канібалізму ў час Другой сусветнай вайны хопіць пачытаць кнігу Зофіі Налкоўскай „Медальёны". Там даведаемся да чаго фашысты выкарыстоўвалі людскія целы. Гэта страшэннае, што з людскога тлушчу выраблялі мыла, з попелу касцей спаленых людзей — угнаенні для садоў, а з валасоў ахвяр — пледы. Канібалізм быў і раней, да вайны, напрыклад, у час галадамору 1932-1933 гадоў на Украіне. Хопіць прачытаць пра гэта кнігу рускага пісьменніка Васіля Гросмана — дарэчы, ахвяры сталінскіх лагераў. У рамане „Жыццё і лёс" адлюстроўвае ён страшныя карціны голаду на Украіне. У СССР гэты страшэнны генацыд замоўчваўся. Тады загінула 6-7 мільёнаў украінцаў. У час, калі квітнела камуністычная ўлада ў Маскве, то па загадзе Сталіна палілі збожжа на Украіне. Гэта спрычынілася да масавага вымірання вёсак. Найгоршая была зіма. На пачатку людзі забівалі коней, потым кароў, а на канец катоў ды сабак. Здараліся выпадкі, што бацькі елі сваіх дзяцей. Хлеб пяклі з мукі з дубовых жалудоў, перамешанай з карою лясных дрэў. Горкі быў хлеб ахвяр камуністычнага рэжыму. Зараз тое адбываецца ў Паўночнай Карэі. Там, дзе людзі паміраюць ад голаду, краіна страшыць свет сваімі дасягненнямі ў ядзернай зброі. Свайго часу я перачытаў іншую кнігу — „Ружа Свету" Данііла Андрэева. Кніга спалучае філасофію, метафізіку і гісторыю або містыцызм. Дарэчы Данііл Андрэеў выводзіцца з пісьменніцкай сям'і — яго бацька, Леанід, быў пісменнікам. Родны брат Данілы — Вадзім Андрэеў — быў паэтам. Самі Андрэевы па бацьку выводзіліся з роду вядомага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі.

Кнігу „Ружа Свету" Андрэеў напісаў у сталінскім лагеры. У 1957 годзе (два гады да смерці) ён верыў, што рукапіс кнігі трапіць у добрыя рукі ды будзе выдадзены. Так і сталася. У 1991 годзе кніга „Ружа Свету" была выдадзена. Кніга адлюстроўвае мінулае ды будучыню славянскіх краін. Пішучы кнігу ў 1950-х гадах Андрэеў прадвяшчаў не толькі крах камуністычнай сістэмы, але аб'яднанне ўсёй Еўропы ў Еўрасаюз, прадбачыў аранжавую рэвалюцыю на Украіне ды сусветны крызіс нашых гадоў. У „Ружы Свету" Андрэеў прадбачвае новую таталітарную ідэйна-палітычную сістэму, якая заўладае светам пасля Трэцяй сусветнай вайны. Таталітарная сістэма будзе кантраляваць грамадства пры дапамозе тэхнікі.

**Юрка БУЙНЮК**

**Вачыма еўрапейца**

# БГКТ абмінутае



Тыдзень таму ў «Ніве» пісаў я аб тым, як прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі адмовіўся даць датацыю на далейшую рэканструкцыю будынка па вул. Варшаўскай, 11, у якім знаходзіцца сядзіба Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У лісце прэзідэнту яго рашэнне аспрэчыў старшыня ГП БККТ Ян Сычэўскі, пры нагодзе сур'ёзна абвінавачваючываладароў горада, агульна кажучы, у маргіналізацыі і нават негатыўным стаўленні да меншасцей і БГКТ. Без грошай ад горада, якія разглядаюцца як уласны ўклад — па словах старшыні Сычэўскага — немагчыма атрымаць умоўна прызначаную ўправай ваяводства датацыю — 21 тысячу злотых. Каб запусціць гэтыя сродкі, уласны ўклад павінен быць як мінімум удвая большы. 22 красавіка галасаванне ў справе падтрымкі абнаўлення сядзібы БГКТ прайшло так падчас сесіі Гарадской рады, як і Ваяводскага сейміка. Беластоцкія радныя просьбу БГКТ адхілілі (у радзе большасць складае Грамадзянская платформа і звязаныя з ёю тры радныя, якія нядаўна адышлі з гэтага клуба). Пратэставалі самаўрадаўцы апазіцыйнага СЛД, тым больш што ў той жа час з адхіленнем запыту на рэканструкцыю будынка па вул. Варшаўскай радныя большасць сродкаў з гэтай размяркоўкі, прызначаных для рэканструкцыі гістарычных будынкаў, аддалі на рамонт касцёла св. Роха. Гаворка пра амаль мільён злотых; такіх высокіх субсідый ніколі не давалі аднаму заяўніку для такой мэты. Са спасылкай на прапанову прэзідэнта, каб не даць гранту БГКТ, радны Міхал Карповіч з СЛД, спасылаючыся на ліст ад Яна Сычэўскага, прагрымеў у адрас Тадэвуша Трускаляскага:

— Гэта маргіналізацыя меншасцей!

Форум меншасцей Падляшша — група радных, звязаных з Грамадзянскай платформай, захавала вельмі стрыманую пазіцыю, падтрымліваючы прэзідэнта і яго палітычную базу. Радны ФМП Славамір Назарук сказаў з трыбуны:

— Як беларус па паходжанні, я ні разу не сустракаўся з іншай, чым сутнасная, трактоўкай меншасцей. Тым не менш, мы будзем прасіць прэзідэнта растлумачыць гэтае рашэнне.

Далей пайшоў радны Адам Мусюк з ФМП:

— Я буду падтрымліваць гэтую прапанову, калі заяўнік дакажа, што працы з'яўляюцца мэтазгоднымі. Хай гэта будзе добра абгрунтаваная прапанова.

Клуб СЛД прадбачыў, што звернецца да прэзідэнта, каб зэканоміць 50 тысяч злотых для гэтай мэты.

Ваяводскія радныя ў сваю чаргу пагадзіліся з прапановай падляшскай управы, даючы БГКТ 21 тысячу злотых, верачы «на слова», што ўсё ж знойдзецца ўласны ўклад.

— Маем гарантыю старшыні Яна Сычэўскага, што будзе яго шукаць. Наколькі я ведаю, мае ён апеляваць да прэзідэнта. Калі не ўдасца ў бліжэйшыя тыдні, БГКТ прыйдзецца адмовіцца ад сродкаў, выдзеленых ваяводскімі раднымі для гэтай мэты, — сказаў мне пасля галасавання ў абедзвюх радах Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

Ян Сычэўскі запэўніваў:

— Мы зробім усё, каб грошай, выдзеленых ваяводскім самаўрадам, не страціць.

Адзін з самых сур'ёзных аргументаў, які прагучаў у аргументацыі адмоўнага рашэння прэзідэнта, гэта той уключаны ў словы яго прэс-сакратара Уршулі Міранчук (успаміналі мы пра яго тыдзень таму), які адносіцца да самай важнай часткі рамонту — канструкцыі даху, дзе кроквы абселі грыбкі і насякомыя: «Заяўнік не прадставіў дакумента аб тым, як выдаліць насякомых з элементаў крокваў, які гарантаваў бы эфектыўнасць гэтага дзеяння і годнасць выдаткавання грамадскіх грошай на гэта». Старшыня Сычэўскі не хавае здзіўлення, кажучы:

— Мы ж раней прадставілі мікалагічную экспертызу прафесара Беластоцкай палітэхнікі. Вядома, што ў такіх выпадках замаўляецца фірма, якая выконвае адпаведныя працы.

Аб канчатковым вырашэнні наконт рамонту будзем інфармаваць.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пад знакам юбілею Кшыштафа Пэндэрэцкага

## Размова з Мікалаем Бушко, дырэктарам Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка».

**— XXXII выпуск Фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2013», што пройдзе з 22 па 26 мая гэтага года ў Беластоку, мае адбыцца пад знакам юбілею 80-годдзя з дня нараджэння славутага кампазітара, дырыжора і педагога Кшыштафа Пэндэрэцкага, які трымае мастацкі патранат над фестывалем. Што асаблівае запланавалі Вы па гэтай прычыне?**

— Кожны фестываль мы ладзім з нейкай мастацкай ідэяй. Найважнейшая для нас царкоўная музыка, але важныя таксама людзі, якія яе выконваюць. Сёлета мы будзем адзначаць гадавіны трох кампазітараў: Пятра Чайкоўскага, Сяргея Рахманінава і 80-годдзе з дня нараджэння самага выдатнага і распазнавальнага сучаснага польскага кампазітара Кшыштафа Пэндэрэцкага. Як адзін з нешматлікіх кампазітараў у Польшчы, ствараў ён царкоўную музыку, як акапэла, так і інструментальна-вакальную. Гэты вельмі сімпатычны і адкрыты на іншых людзей кампазітар добра ставіўся да нас, сачыў за нашым фестывалем здаўна, ацэньваў яго належным чынам і ў 2003 годзе стаў трымаць над нашым мерапрыемствам мастацкі патранат. Яго царкоўны твор «Утреня» была для мяне адным са стымулаў, каб стварыць фестываль царкоўнай музыкі, у якім можна было б прэзэнтаваць таксама і яго царкоўную музыку. Калі я пачынаў арганізаваць фестываль, у свеце было ўжо вядома пра «Утреню» Кшыштафа Пэндэрэцкага. У час інаўгурацыйнага канцэрта сёлетняга фестывалю мы хацелі падарыць маэстра Кшыштафу Пэндэрэцкаму з нагоды яго юбілею нешта незвычайнае і рашыліся падарыць канцэрт царкоўнай музыкі.

**— Што канкрэтнага будзе ў час інаўгурацыі?**

— Фестываль адкрыецца канцэртам «Кшыштафу Пэндэрэцкаму — сучасныя кампазітары». Я звярнуўся да выдатных кампазітараў з Польшчы, Беларусі, Расеі, Украіны, Малдовы і Македоніі, царкоўная музыка якіх часта выконвалася на нашым фестывалі, каб яны скампанавалі новыя царкоўныя творы або са свайго рэпертуару вылучылі блізкія ім кампазіцыі царкоўнай музыкі і прысвяцілі іх, як падарунак, юбіляру Кшыштафу Пэндэрэцкаму. Большасць гэтых твораў не гучалі публічна і таму адбудзецца іх прапрэм'ера ў час інаўгурацыйнага канцэрта, а выконваць іх будзе наш лаўрэат з ліку хароў вышэйшых музычных школ — Хор Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя М. А. Рымскага-Корсакава. Прафесійная падрыхтоўка харыстаў, сярод якіх большасць спевакоў састаўляюць студэнты, маладыя галасы, выдатны дырыжор, энтузіязм і ахвота працаваць у напрамку да дасканаласці сведчаць, што гэты хор захоўвае ўсе атрыбуты, каб выдатна запрэзентаваць харавое мастацтва. Мы вельмі рады, што маэстра Кшыштаф Пэндэрэцкі абяцаў прыехаць на інаўгурацыйны канцэрт у Беласток, які мае адбыцца 22 мая, бо 21 мая ў сядзібе Пэндэрэцкіх у Люславіцах будзе ён завяршаць рэалізацыю сваіх мараў і адкрываць вялікі Еўрапейскі цэнтр музыкі, пакідаючы там на святкаваннях вядомых людзей свету культуры. Я папрасіў таксама маэстра Пэндэрэцкага, каб падрыхтаваў сваю кампазіцыю царкоўнай музыкі, якая будзе выконвацца таксама ў час інаўгурацыі фестывалю.



Мікола Бушко і Кшыштаф Пэндэрэцкі (справа) ў час прэс-канферэнцыі на Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі «Гайнаўка» ў 2006 годзе

**— Кампазітар Кшыштаф Пэндэрэцкі сярод праваслаўных не быў вядомы як кампазітар царкоўнай музыкі.**

— Не толькі ў нашым асяроддзі, але і ў іншых таксама мала ведаюць і пра іншых кампазітараў сучаснай царкоўнай музыкі і адной з галоўных мэт нашага фестывалю з'яўляецца знаёміць нашае грамадства з рознымі кампазітарамі, у тым ліку і з польскімі кампазітарамі і іх творамі царкоўнай музыкі. Многа людзей чула пра «Утреню» Кшыштафа Пэндэрэцкага, але пры нагодзе фестывалю выконваліся і іншыя яго творы царкоўнага жанру. Славуты твор «Иже херувимы», які маэстра Пэндэрэцкі напісаў з нагоды юбілею свайму сябру, выдатнейшаму віяланчэлісту Мсціславу Растраповічу, многа гадоў назад заспяваў першы раз на фестывалі Хор Радыё і тэлебачання Беларусі з Мінска, кіраваны прафесарам Віктарам Роўдам. Удалося нам пазнаёміць гэтых двух выдатных людзей, дырыжора Віктара Роўду і кампазітара Кшыштафа Пэндэрэцкага ў 2003 годзе і тады ў Беластоку прафесар Віктар Роўда ўручыў Кшыштафу Пэндэрэцкаму відэазапіс з выканання твора «Иже херувимы». Малітву «Иже херувимы» заспявалі ў Беластоку таксама мастакі з Хору Маскоўскай кансерваторыі, якімі пакіраваў сам Пэндэрэцкі. Апрача гэтага на фестывалі гучаў «Гімн да святога Данііла» аўтарства маэстра Пэндэрэцкага і пры гэтым у яго прысутнасці. Аднак самым важным было выкананне «Утрени» Кшыштафа Пэндэрэцкага, да якога мы давялі пры нагодзе арганізавання 25 юбілейнага фестывалю ў 2006 годзе. У гэтым годзе адбыліся дзве прэм'еры выканання гэтага грандыёзнага твора: беластоцкая — у маі і расейская — у чэрвені ў Смольным саборы ў Санкт-Пецярбургу. У гэтым годзе прагучыць Псалом 129 «Из глубины воззвах к Тебе, Господи...» і ўсё гэта арганізуе малая няўрадавая арганізацыя — Фонд «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы.

**— Якія хары і з якіх краін выступяць у гэтым годзе на фестывалі?**

— Прадбачваем выступы 26 хароў, а ў гэтым ліку 24 у конкурснай частцы, з Беларусі, Расеі, Украіны, Эстоніі, Малдовы, Балгарыі і Польшчы. Мы асабліва рады ўдзельнікам з Польшчы, у гэтым ліку з Беластока. Усе хары запрэзентуюцца ў час конкурсных слуханняў фестывалю ў катэгорыях хароў прыхадскіх, аматарскіх свецкіх, дзіцяча-маладзёжных, музычных вучэльняў і прафесійных. Мы рады прыезду ўсіх хароў і нізка ім кланяемся, а асабліва цешымся прыезду дзетак і моладзі, бо гэта будучыня выканання царкоўнай музыкі. (Праграма фестывалю — на 12 стар.)

**— У мінулых гадах Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі «Гайнаўка» адбываўся пад ганаровым патранатам Прэзідэнта РП і Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП. Ці ёсць ужо згода на такія патранаты на сёлетні выпуск фестывалю?**

— Свой патранат на сёлетні выпуск фестывалю ўжо пацвердзілі Прэзідэнт РП, Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны РП, прэзідэнт Беластока, Галоўнае праўленне Саюза польскіх кампазітараў і прэзідэнт Варшавы, для дзеянняў у Варшаве. Калі гаварыць пра агульнапольскія медыі, дык патранат над нашым фестывалем трымае Польскае радыё С.А. у Варшаве, Польскае тэлебачанне С.А. у Варшаве, Польскае тэлебачанне «Культура» і рэгіянальныя масмедыі — Польскае радыё ў Беластоку, Польскае тэлебачанне ў Беластоку і Варшаўскі асяродак Польскага тэлебачання, а сярод прэсы патранат над нашым мерапрыемствам трымаюць, між іншым, «Метро» ў Варшаве і беларускі тыднёвік «Ніва», за што мы ўсім удзячны.

**— Ці вядома ўжо якія выступы ў рамках фестывалю будуць адбывацца ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку па вуліцы Адэскай, а якія ў Беластоцкай філармоніі па вуліцы Падлеснай.**

— Уся асноўная частка сёлетняга XXXII Фестывалю царкоўнай музыкі — інаўгурацыя, конкурсныя слуханні і гала-канцэрт будуць адбывацца ў старой філармоніі па вуліцы Падлеснай, 2, у якой мы арганізуем канцэрты амаль 30 гадоў, бо новая філармонія ў гэты час будзе жыць пастаноўкай «Прывід оперы».

**— Ці традыцыйна прадбачваюцца выступы сёлетніх выканаўцаў фестывалю ў Белавежы і Варшаве?**

— Хор Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя М. А. Рымскага-Корсакава 21 мая выступіць з канцэртам расійскай царкоўнай музыкі «Скарбы царкоўнай музыкі» ў славутай Студыі імя Лютаслаўскага ў Польскім радыё ў Варшаве, а гэта вынік нашага шматгадовага супрацоўніцтва з Польскім радыё. 24 мая, ужо 22 раз, адбудзецца адмысловы, імпазантны канцэрт у евангеліцка-аўгсбургскім касцёле ў Варшаве, распаложаным побач плошчы імя Малахоўскага. Восьмы ўжо раз у касцёле св. Тэрэсы ў Белавежы пройдуць «Белавежскія дні сакральнай музыкі», у час якіх побач царкоўнай музыкі будзе выконвацца музыка іншых канфесій. Гэтае мерапрыемства адбываецца ў супрацоўніцтве з элітарнай школай — Лясным тэхнікумам у Белавежы. Канцэрты царкоўнай музыкі будуць адбывацца таксама ў іншых мясцовасцях, аб чым будзем інфармаваць.

**— Калі нехта схоча прыехаць у Беласток і паслухаць царкоўную музыку бясплатна, у якія дні павінен гэта зрабіць?**

— Уступ на інаўгурацыйны канцэрт і конкурсныя слуханні ў Беластоку бясплатныя, але ўступ на інаўгурацыйны канцэрт будзе адбывацца па запрашэннях. Запрашэнні можна ўжо атрымаць цяпер, так як і купіць білеты на гала-канцэрт — у касах оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай і ў арганізатараў фестывалю. Сардэчна запрашаем. Пры нагодзе хачу падзякаваць усім супрацоўнікам, спонсарам, усім людзям і ўстановам, якія ўспамагаюць арганізатараў сёлетняга фестывалю.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Аляксей МАРОЗ

## Выкрышваецца стары авангард

Гартаючы падшыўкі „Нівы" (у пошуках сваіх старых тэкстаў), натрапіў я на допіс Эдмунда Вайсковіча „Дзе падзелася наша радасць, карэспандэнты", які друкаваўся ў 31 нумары „Нівы" ад 29 ліпеня 1984 г. І хоць мінула 29 год і няма ў жывых аўтара допісу, праблема, якую кранаў мой калега па пяру, застаецца актуальнай. А Вайсковіч пісаў так: „Звяртаюся да ўсіх былых карэспандэнтаў — давайце вяртацца на старонкі „Нівы", ёсць аб чым пісаць і трэба пісаць. Трэба таксама, каб і новыя карэспандэнты — людзі маладыя, прымалі на сябе абавязак быць карэспандэнтамі нашай роднай газеты „Ніва"". З сумам прызнаю, што ніўскі авангард выкрышваецца. Два гады таму на юбілеі 55-годдзя „Нівы" сустрэў я ўсяго некалкі ветэранаў: Віктара Буру, Міхася Куптэля, Васіля Петручука, Лену Тапалянскую і Жэню Мартынюк. У кампаніі не хапіла Мікалая Лук'янюка, Грышы Мароза, Пятра Байко, Мікалая Панфілюка, Марка Цыбарта, арлянскага летапісца Міхала Мінцэвіча ды іншых. Дзе яны зараз? Чаму парвалі кантакты? З некаторымі прыйшлося мне сустрэцца пасля імпрэзы і пагаварыць, напрыклад, з Грышам Марозам і Мікалаем Панфілюком. З Мікалаем Лук'янюкам і Пятром Байко год пазней размаўлялі па тэлефоне. Намаўляў, як і пакойны сябра Вайсковіч, каб вярталіся яны да пісання. Па такой размове Грыша Мароз адно адклікнуўся. Паслаў некалькі тэкстаў, але зноў сціх. Чаму? Здароўе не дазваляе? А мо нешта іншае перашкаджае? Падзяліцеся затым шаноўныя калегі сваімі праблемамі і клопатамі. Ад таго ж маеце верных сяброў і „Ніву". Я, напрыклад, разлічваю на іх. Даказалі гэта яны ў самыя цяжкія для мяне мінуты, калі памерла светлай памяці жонка. Прыехалі на пахаванне, каб падтрымаць на духу, выказаць спачуванні і правесці ў апошнюю дарогу. І за гэта маім ніўскім прыяцелям шчырае дзякуй.

Прыкладам самага стойкага ніўскага карэспандэнта быў пакойны Мікалай Лук'янюк. З першых дзён заснавання „Нівы" пасылаў допісы і вершы. І верным застаўся да апошніх зямных дзён. Адышоў у краіну вечнага спачыну сёлета 21 сакавіка. А ў апошнюю дарогу — на могільнік у Трасцянку — праводзілі Яго ніўскія сябры. Няхай зямля Яму будзе пухам!

А вяртаючыся да заклiку Э. Вайсковіча: у „Ніву" варта пісаць, і трэба пісаць. Бо тэмаў — хоць адбаўляй! Разважце гэта, сябры карэспандэнты .

**Уладзімір СІДАРУК**

## Пластычны гурток з узнагародай

Актыўна дзейнічае пластычны гурток у Гмінным асяродку культуры ў Міхалове (Беластоцкі павет) пад кіраўніцтвам інструктаркі Малгажаты Тарасэвіч. У сакавіку г.г. члены гуртка выслалі свае лепшыя працы на агульнапольскі конкурс „X Вясна маладых талентаў", які арганізаваў Гайнаўскі дом культуры.

З Міхалова даслалі 30 малюнкаў дзесяцёх маладых пластыкаў-аматараў. Варта адзначыць, што сёлета лаўрэатам стаў якраз міхалоўскі гурток і ён атрымаў статуэтку „Таленты-2013". Журы ўзнагародзіла таксама іншых пластыкаў: Паўліну Банасюк, Іаанну Буру, Лукаша Буру, Дамініку Саву, Юлію Чабан, Іаанну Халаловіч і Лукаша Ямрозяка. Віншуем! **(яц)**

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Беларускі «пляскач»



Беларускай драматургіі былі прысвечаны чарговыя чытанні драм «(Пера) інтэрпрэтацыі. Слап-чытанні», сарганізаваныя 24 і 25 красавіка ў беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. У перфарматыўнай форме (інсцэніраванай) прадстаўлены былі тэатральныя тэксты беларускіх драматургаў маладога пакалення: Ірыны Ярашэвіч, Дзмітрыя Багаслоўскага і Паўла Пражкі. Плакаты і ўлёткі заахвочвалі прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве пры дапамозе пытанняў: «Ведаць? — Разумець? — Палюбіць адны адных? Нашых замежных суседзяў. Мы заглянем да іх з-за куліс тэатра: аб чым пішуць іхнія драматургі? Якая аўдыторыя ходзіць у іхні тэатр? Якія праблемы балючыя для іх? Якія тэмы іх смешаць? Якія іх мары? Спакойна, мы суседзі…». Чытанні былі таксама працягам супрацоўніцтва з Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі ў Мінску з Драматычным тэатрам у Беластоку.

Беларускія слап-чытанні адкрылі новую серыю. Яна будзе прысвечана польскім суседзям у вельмі шырокім сэнсе. Задумшчыца «плескачоў» (слап, з англійскай мовы: удар па твары), літаратурны кіраўнік «Вянгеркі» Дана Лукасінская тлумачыла нам перад пачаткам беларускіх прэзентацый іх ідэю:

— Гэтая серыя, прысвечаная будзе драме не толькі суседзяў, з якімі Польшча мяжуе непасрэдна. У рамках падрыхтоўкі ёсць слапы, прысвечаныя, напрыклад, Грузіі і Іспаніі. Мы зыходзім з Беларусі, так як Беласток мае яе на сваім шляху. Мы хочам праверыць, ці мы можам пазнаёміцца з нашымі суседзямі пры дапамозе сучаснай драматургіі. Выбралі мы да беларускага слапа гэтыя тэксты таму, што кожны з іх пра штосьці іншае. Першы тэкст, Ірыны Ярашэвіч, прысвечаны гендэрнай ідэнтычнасці, гендэру (гэты тэрмін ставіцца да так званага сацыяльнага полу, у адрозненне ад біялагічнага — М. Х.). Другі, Дзмітрыя Багаслоўскага, з'яўляецца інтымнай драмай аб адказнасці, аб уводзе ў дарослае жыццё, расказаны цёпла, і нават трохі сантыментальна. Нарэшце, трэці, Паўла Пражкі — аб падзенні мовы, сувязі паміж людзьмі, якія на першы погляд выказваюць некаторыя паведамленні адзін аднаму аб трывіяльных рэчах, і, такім чынам, ідзе за гэтым распад адносін. Тэксты — на еўрапейскім узроўні. Два тэксты былі напісаны на рускай мове і перакладзены на польскую мову і адзін — з англійскай (драма «It» Ірыны Ярашэвіч — М. Х.). І тут ёсць пытанне да беларускіх драматургаў: чаму ў асноўным пішуць яны на рускай мове? Наша мэта ў слапах — мець справу не з перакладамі, як у дадзеным выпадку, з рускай на беларускую мову. У грузінскім слапе таксама бярэм тэксты, перакладзеныя з англійскай, можа, адзін будзе толькі з грузінскай.

Адзначыла:

— Калі б загалоўкі п'ес і іх аўтараў схаваць, і імёны былі па-англійску, я не дадумалася б, што чытаю беларускія п'есы, увогуле ўсходнія. Пытанні, якія змяшчаюцца ў іх — агульныя.

Чытанні адкрыў «It» у перакладзе Якуба Адамовіча. Рэжысёрам яго стаў вядомы ў тэатральным свеце Тамаш Дамагала, які прайшоў поўны семінар амерыканскага тэатральнага «метаду» ў прэстыжнай акцёрскай студыі Лі Страсберга у Нью-Йорку. Драма, напісаная ў 2009 годзе (была таксама рэалізаваная акцёрамі «Свабоднага тэатра» ў якасці радыёгульні), датычыць гендэрнай ідэнтычнасці, якой галоўны герой — загаловачны It (Яно) — не можа афіцыйна змяніць, бо з-за непадпарадкавання не праходзіць адпаведных тэстаў. Робіць гэта самастойна, ледзь здабываючы гармоны. Ярашэвіч выкарыстоўвае мову натырканую праклёнамі як выраз бунту супраць правільнасці моўнай сістэмы, якая прысудзіла героя ў да жыцця на задворках. Рэжысёр перанёс месца дзеяння ў з кватэры ў пустую царкву. Ён патлумачыў нам, што захапіла яго ў напісаным у 2009 годзе тэксце Ірыны Ярашэвіч (якая падпісваецца Яро), народжанай у 1984 годзе ў Мінску, выпускніцы Лінгвістычнага ўніверсітэта ў Мінску, у цяперашні час студэнткі Нью-Ёркскага тэхналагічнага коледжа:

— Прыцягнулі мяне ў гэтай драме перш за ўсё эмоцыі. Гэтая маладая аўтарка блізкая да Сары Кейн (англійская драматург з плыні званай жорсткасцю, якая здзейсніла самагубства, пакутуючы маніякальна-дэпрэсіўнай маніяй — М. Х.), са сваімі дакучлівымі ідэямі і праблемамі, якія мае з сабою, з пытаннямі: хто я такая? Гэтыя дэпрэсіўныя станы ў «It» вельмі цікавыя. Гэта п'еса з вялікай нагрузкай адмоўных эмоцый. На самой справе, гэта манадрама распісаная па ролях. Гэта паток залежаў адчаю. У гэтым выпадку эмоцыі і гэты адчай не ацэньваюцца, таму што яны з'яўляюцца эфектам вопыту таго, хто сапраўды дзесьці існуе. У тэатры заўсёды мяне зацікаўлялі людзі, якіх трэба абараняць.

Дадаў:

— Гэтая драма напісана, вядома, беларускай, але яна тычыцца ўніверсальных пытанняў, і нацыянальнасць тут не мае значэння. Вядома, некаторыя падзеі звязаная з тым, што адбываецца ў Беларусі, напрыклад, з прававой сістэмай. Але гэта не ўплывае на гісторыю, якую прыносіць гэтая драма, таму што гэта ўнутраная чалавечая драма, якая можа адбыцца дзе заўгодна. Толькі ў рэмарках згадваецца, што гэта адбываецца ў Беларусі. Я, дарэчы, свядома змяніў прастору. Гэта адбываецца не так як у тэксце на кватэры, верагодна, гераіні, але ў пустой царкве. Я лічу, што такі чалавек, як галоўная гераіня, у рэшце рэшт звяртаецца да Бога. У сваёй дэпрэсіі, каб выратавацца, падасца да кожнай установы. Пытанне толькі, ці нейкая з іх пакажа ёй выхад. І што цікава, гэтыя прыніжэнні, якія гераіня пераносіць з-за сваёй транссексуальнасці ў псіхіятрычным шпіталі ў Беларусі, магла б перанесці і ў Польшчы.

У сваю чаргу «Заўтра можа не быць» Дзмітрыя Багаслоўскага (у перакладзе таксама Якуба Адамовіча), падрыхтаваны маладой украінскай рэжысёркай Тацянай Лагойдай, народжанай у 1989 годзе ў Днепрапятроўску, выпускніцай у 2010 годзе тамашняга тэатральна-мастацкага каледжу, і ў тым самым годзе Нацыянальнага ўніверсітэта тэатра, кіно і тэлебачання ў Кіеве. У 2012 годзе яна прыняла ўдзел у падрыхтоўцы спектакля «Чорныя птушкі Беластока» ў Лялечным тэатры ў Беластоку. Аўтар драмы «Заўтра можа не быць» нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Акрамя таго ён акцёр і рэжысёр, скончыў Тэатральную акадэмію ў Мінску, працаваў акцёрам у мінскім Беларускім нацыянальным маладзевым тэатры. Як драматург дэбютаваў тэкстам «Вертыкаль» у 2007 г. Прэзентацыя «Заўтра можа не быць» адбылася два гады таму на фестывалі беларускай драматургіі імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску ў 2011 годзе. Тэкст Багаслоўскага з'яўляецца інтымнай драмай аб дружбе і адказнасці. Шаснаццацігадовы Антон чакае вяртання сваіх бацькоў, занятых сваёй кар'ерай. Ён клапоціцца аб паралізаваным дзедку, які стаў нямым па выбару. Ён адчувае сябе адзінокім і непажаданым. Нечакана атрымлівае падтрымку ад стоража Васіля, які ратуе хлапца ад самагубства. Грубы ў абыходзе Васіль (выдатны Марэк Тышкевіч) з'яўляецца першым, які засяроджвае ўвагу на маладым чалавеку. Перадаючы яму маральны кодэкс, уплывае і на стаўленне Антона, вучыць яго жыць «тут і цяпер», без аглядкі за сябе і турботы аб заўтрашнім дні. Рэжысёрка перад паказам, прызнаючыся, што гэта быў яе першы рэжысёрскі кантакт з беларускай сучаснай драматургіяй і што больш чым сучасная драматургія захапляе яе класіка, сказала «Ніве»:

— Драма напісана вельмі простай мовай, і кранае вельмі складаныя праблемы ўзаемаадносін паміж дзецьмі і бацькамі. Кажуць, што сям'я павінна трымацца разам, што на яе варта разлічваць у любы час.

«Зачыненыя дзверы» Паўла Пражкі (пераклад Агнешкі Любаміры Пятроўскай) — у рэжысуры Аляксандра Гарцуева, шматгадовага акцёра і рэжысёра Тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску, а з гэтага сезона мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага тэатра беларускай друматургіі, які ў Беларусі ўпершыню паставіў драму Вітольда Гамбровіча «Івона, прынцэса Бургундская», гэта драма, у якой рэмаркі складаюць большасць тэксту. Драма Паўла Пражкі (нарадзіўся 1975 годзе

працяг ☞10

# У велікодны перыяд - з новымі выданнямі

**Спатканне, якое 7 красавіка ў памяшканні Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы наладзіла гайнаўскае аддзяленне Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, прысвечанае было старцу Паісію. Жыхары Грэцыі і іншых краін прызнаюць яго памочнікам у розных жыццёвых выпрабаваннях. Выдаюцца там кніжкі з настаўленнямі грэчаскага святагорца. Калі адзінаццаць гадоў назад пабываў я ў Грэцыі, заязджаў у жаночы манастыр у Суроці, каб там пакланіцца астанкам старца Паісія, якія знаходзіліся ў магіле на манастырскай плошчы. Там жыў старац перад смерцю, але раней узрастаў духоўна на Афоне. Зараз колькасць паломнікаў да магілы манаха Паісія павялічваецца.**

У нас святагорца Паісія прыбліжае вернікам Праваслаўнае выдавецтва «Братчык» з Гайнаўкі. Нядаўна выдала яно кніжку «Żywot Starca Paisjusza Hagioryty» («Жыццё старца Паісія Святагорца») аўтарства іерамахана Ісаака. Выданне з'яўляецца прадаўжэннем пяцітомнага выдання «Слоў», у якім надрукаваны настаўленні святагорца Паісія.

Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія папрасіла ігуменню Елізавету (Нічыпарук) з Манаскага дома святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах, якая вучылася ў Грэцыі і многа добрага чула пра манаха Паісія, каб расказала гэта гайнаўскім вернікам. На свята Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы сабралася ў памяшканні брацтва многа гайнавян, так што трэба было даносіць крэслы, а некаторыя нават слухалі матушку стоячы.

— Выдадзена цудоўная кніжка пра жыццё старца Паісія (1924-1994). Раней выдавецтва «Братчык» выдала пяць вельмі цікавых тамоў «Слоў» з настаўленнямі старца Паісія, якія перш за ўсё спісалі матушкі з жаночага манастыра ў Суроці, дзе ў час цяжкай хваробы жыў старац. У мяне ёсць шосты том з настаўленнямі манаха Паісія на грэчаскай мове і можа гэтае выданне з часам будзе даступнае таксама для нашых вернікаў, — сказала манахіня Елізавета. — Старац тлумачыў, што большасць сямейных недаразуменняў гэта рэзультат неадпаведнага духоўнага жыцця і таму асобам, якія яго наведвалі, прапанаваў працаваць над сваім духоўным ростам. Калі прыехалі да старца Паісія паломнікі з Польшчы і сказалі, што ў нас ужо стала лягчэй і дазваляюць будаваць цэрквы, старац раіў будаваць храмы ў сваіх сэрцах.

Матушка Елізавета расказвала, як старац дапамагаў людзям, што прыходзілі да яго за патрэбамі, і як дапамагае нават сёння, калі людзі просяць у яго помачы на адлегласць. Распавядала манахіня пра грэка, які жыў у Аўстраліі і хацеў скончыць жыццё самагубствам. Калі хацеў скочыць у прорву, стары чалавек *шарпануў* яго ззаду так, што гузікі ў кашулі паадрываліся, і папрасіў не канчаць жыцця самагубствам, раячы, што заўсёды ёсць выхад са складаных абставін. Пасля малітваў старца Паісія, які з'явіўся грэку ўжо пасля сваёй смерці, жыццёвыя цяжкасці грэцкага бізнесмена вырашыліся і ён прыляцеў з Аўстраліі ў Грэцыю і, плакаўшы, дзякаваў за дапамогу, стоячы над магілай манаха Паісія. Манахіня расказвала, што старац дапамагае дзеткам, маладым наркаманам, якіх многа ў Грэцыі, у іх хваробах; грэкам, пражываючым у розных краінах свету і людзям іншых нацыянальнасцей, паколькі пры жыцці наведвалі яго людзі розных веравызнанняў і нацыянальнасцей.

— Не было яшчэ кананізацыі старца Паісія, бо ў Праваслаўнай царкве не спяшаюцца з гэтым. Сёстры з манастыра ў Суроці спісваюць і збіраюць сведчанні аб дапамозе старца Паісія людзям у хваробах і іншых патрэбах. Зараз праслаўляюць яго людзі, а з часам пэўна кананізуе яго Царква, — заявіла на заканчэнне спаткання матушка Елізавета.



Іерэй Марк Юрчук і манахіня Елізавета (Нічыпарук)

Іерэй Марк Юрчук, апякун гайнаўскага аддзялення Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, запрасіў сабраных на чарговыя спатканні, якія брацтва плануе ладзіць больш рэгулярна. Пры канцы сустрэчы ў саборы можна было купіць, між іншым, нававыдадзены кампакт-дыск «Вясна душы» з велікапоснымі песнямі, якія выконвацць манахіня Елізавета разам з манахамі з мужчынскага манастыра ў Саках. У мінулым годзе выдалі яны кружэлку «Спяваючы з Анёламі», працягам якой з'яўляецца новае выданне. Даход ад продажу кружэлак, якія можна прыдбаць, між іншым, у праваслаўных прыходах, будзе прызначаны на дзейнасць Манаскага дома ў Залешанах, дзе выкананы ўжо падмурак і распачалася будова асобнага будынка з вялікай сталовай і памяшканнямі для паломнікаў.

— Добра было б у гэтым годзе хацця ўзвесці сцены будынка для паломнікаў і прыкрыць, каб не нішчэў, але невядома, ці ўдасца сабраць адпаведныя сродкі, — сказала мне матушка Елізавета.

На манастырскім панадворку ў Залешанах стаіць ужо драўляная царква, а мураваная хата была адаптавана на манаскі дом (пісалі мы ў нашым тыднёвіку раней). У царкве ў Залешанах у апошнюю нядзелю месяца пасля літургіі чытаецца акафіст да св. вмч. Кацярыны. У мужчынскім манастыры ў Саках пасля літургіі ў першую нядзелю месяца перад іконай чытаецца акафіст да св. вмч. Дзмітрыя. Абодва манастыры супрацоўнічаюць з манастырамі ў Грэцыі і таму матушка Елізавета, манахі і паслушнікі з Сакоў, пабываючы ў Грэцыі, заязджаюць у Суроці на магілу старца Паісія.

У час гайнаўскага спаткання раздаваліся здымкі з выявай старца Паісія і блаславенствам Дзмітрыеўскага манастыра ў Саках. Заснавальніка і былога настаяцеля манастыра ў Саках архімандрыта Варсанофія (Дарашкевіча) спаткаў я некалькі дзён пазней у выдавецтве «Братчык» у Гайнаўцы. Прывёз ён сюды свае нядаўна выдадзеныя кніжкі «Гісторыя ўсходніх рымлян». Зараз архімандрыт многа часу адводзіць навуковай дзейнасці. Каб напісаць згаданую кніжку, шмат працаваў у многіх архівах, а дапаможным яму было веданне многіх моў.

— Праваслаўнарымскую царкву сталі называць візантыйскай. Мала, што Захад увёў названне *Візантыя*, то яшчэ даваў да таго, што словам *візантыйскі* сталі называць ірацыянальны рэлігійны цыыманіял, ці празмернасць бюракратыі. Гэта дало падставы да пастаяннага ірацыянальнага абсмейвання і прыніжання Візантыі па сённяшні дзень, — лічыць архімандрыт Варсанофій.

У нававыдадзенай кніжцы айца Варсанофія «Гісторыя ўсходніх рымлян» можам даведацца, што давяло да падзелаў на Усход і Захад і як яны адбываліся, а таксама чаму Усход і Захад прывязаны да іншых ідэй.

— Усходнерымская імперыя перастала існаваць рэальна, але засталася ад яе духоўная спадчына, якая пратрымала 500-гадовае ісламскае панаванне на Балканах і ў Малой Азіі. Гэтая імперыя выпрацавала і перадала многім нацыям тэалагічныя каноны, каноны пісання ікон, будавання храмаў і вялікую духоўнасць, — пераконвае архімандрыт Варсанофій.

У яго кніжцы прачытаем таксама аб багатай матэрыяльнай спадчыне імперыі, крыжовых паходах лацінян і наступленні туркаў на імперыю.

У кніжцы «Жыццё старца Паісія Святагорца» абшырна апісанае аскетычнае жыццё старца, яго дапамога патрабуючым і замешчаны яго настаўленні. Старац Паісій вучыць як змагацца з дрэннымі звычкамі, як жыць пакорліва і якой дарогай ісці, каб перамагаць спакушэнні і на канец трапіць у Царства Нябеснае.

Архімандрыт Варсанофій, пачынаючы з 1985 года, калі ў Салуні вучыўся грэчаскай мове, прыбываў за парадамі да старца Паісія, калі той жыў яшчэ на Святой Гары Афон. Таму новае выданне пра старца Паісія таксама вельмі дарагое айцу Варсанофію.

— Тэлефануюць да нас людзі, якія чытаюць новае выданне аб старцу Паісію і расказваюць пра розныя незвычайныя здарэнні. Напрыклад, жанчына, што купіла кніжку «Жыццё старца Паісія Святагорца», пасля заказала многа іншых нашых выданняў, хоча ладзіць сустрэчы і пераконваць да чытання нашых кніжак іншыя асобы, — сказаў мне Марк Якімюк, настаўнік Божага закону ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, які кіруе працай «Братчыка».

Праваслаўнае выдавецтва «Братчык» распачало сваю дзейнасць у 1994 годзе, друкуе штораз то новыя кніжкі, у тым ліку і на беларускай мове. Вельмі шыкарна выдадзенае было «Святое Евангелле» ад чатырох апосталаў, якога пераклад быў зроблены ў Беларусі. Пра згаданыя мною выданні можна распытваць у сваіх праваслаўных прыходах. Больш пра выданні гайнаўскага «Братчыка» можна даведацца на сайце інтэрнет-магазіна выдавецтва **http://www.bratczyk.pl/**. Можна там заказаць кніжкі, іконы, аўдыёзапісы, відэазапісы, календары і паштоўкі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Старыя песні ў Музеі Сакольскай зямлі

Яшчэ год таму назад Музей Сакольскай зямлі быў вядомы амаль выключна як месца памяці і папулярызацыі татарскай спадчыны. Цяпер яго дзверы штораз шырэй адкрываюцца і для мясцовых беларусаў. Гэта заслуга новай інструктаркі і адзінай апякункі музея Аляксандры Плюты. Спадарыня Аляксандра — сімвал маладосці, творчасці і адкрытасці, якая нават пры грашовых недахопах здольная захапіць сваіх наведвальнікаў штораз то новымі і разнароднымі культурнымі прапановамі. У суботні вечар 13 красавіка ў адной з выставачных залаў музея наладзіла яна сустрэчу з даўнімі мелодыямі Сакольшчыны, а дакладней — з „Песнямі з ваколіц" ў выкананні крынскага дуэта „Зараніца".



Спадарыня Аляксандра прызналася чытачам „Нівы", што з музычнай прапановай выходзіць тут упершыню.

— Я вельмі зацікаўленая нашымі колішнімі песнямі, — кажа яна. — Свайго часу мне захацелася сабраць дакладную інфармацыю пра фальклорныя калектывы Сакольшчыны. Вынікі пошукаў аказаліся не вельмі захапляльнымі. У асноўным мясцовыя аўтэнтычныя творы выконваюць толькі бабулькі з Хільмонаў, што каля Новага Двара і крынская „Зараніца". З жанчынамі з Хільмонаў я пазнаёмілася пры нагодзе пошукаў інфармацыі пра калядаванне на Сакольшчыне. Варта было б туды яшчэ вярнуцца, каб запісаць іх багаты песенны рэпертуар. Сённяшні канцэрт я наладзіла з думкай перш за ўсё пра пакаленне 30-50-годкаў, для якіх у нашым горадзе няма ніякай культурнай ці забаўляльнай прапановы, але ж мне здаецца, што яны не адгукнуцца. Усё роўна трэба прабаваць, ствараць ім такі шанц.

Здагадкі спадарыні Аляксандры пацвердзіліся. Мерапрыемствам цікавіліся выключна сакольскія пенсіянеры. Яны з увагай выслухалі беларуска-польскія песні з падсакольскіх Гарчакоў, апраўленых уступным словам выдатнага сакольскага краязнаўца Андрэя Гарбуза. У эпоху дзевятнаццацівечнай падсакольскай шляхецкай вёскі ўдзельнікаў сустрэчы перанеслі не толькі падрыхтаваныя тут спевы і апоседы, але і сам музейны інтэр'ер. Сярод сабраных, між іншым выхадцаў з гэтай вёскі, завязалася ажыўленая дыскусія і абмен інфармацыяй пра гісторыю шляхецкага роду Гарчакоў. Яе завяршэннем была сумная рэфлексія над заняпадам мясцовай культурнай спадчыны, а перш за ўсё адсутнасцю яе падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва.

**Іаанна ЧАБАН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl



зорка
для дзяцей і моладзі



*У святліцы ў Старым Ляўкове ўпрыгожваюць вербачкі*



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Чаму любім конкурсы?




Фота Аляксея МАРОЗА

Магдалена Мішчук з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве

У Дом культуры ў Бельску ў сераду 10 красавіка з'ехалі найлепшыя дэкламатары беларускіх вершаў з Падляшскага ваяводства. Там прайшоў фінал конкурсу „Роднае слова". Дзеці, якія перамаглі ў раённых адборах, цяпер спаборнічалі за найлепшыя месцы.

Дзякуючы конкурсу, некаторыя ўпершыню мелі магчымасць пабываць у Бельску-Падляшскім, так як Артур са школы ў Бабіках. Дарога яму здавалася надзвычай доўгай і нават пачаў хвалявацца, што не паспее на свой выступ. Сапраўды, з Бабік у Бельск больш за сто кіламетраў. Артур, так як і іншыя дзеці, якія з'ехалі з розных куточкаў Падляшша, прадчуваючы, што чакае іх даўжэйшая дарога, адпаведна да яе падрыхтаваліся. Таму, апрача элегантных святочных строяў, узялі з сабой штодзённыя запечнікі. Зразумела, запоўненыя ласункамі, якія дапамагалі перажыць гэтую падзею. І калі ўжо малады дэкламатар выступіў, можна было пазней яго сустрэць на калідоры, напрыклад, з салодкім пончыкам у руцэ ды іншымі ласункамі. Гэта здавалася зразумелым, што пасля сотні рэпетыцый і ў канцы пасля выступу на цэнтральным этапе, кожны заслужыў хвіліну адпачынку і нешта салодкае.

На гэты этап конкурсу прыехалі найлепшыя дэкламатары. Шмат было і такіх дзяцей, якія не ўпершыню прымалі ўдзел у фіналах. Вераніка з пачатковай школы ў Бабіках, якая ў мінулым годзе была лаўрэаткай, хвалявалася перад выступам. Прызналася нават, што прачнулася ўжо з самой раніцы (пасля 5 гадзіны!) і не магла заснуць. Аднак свой верш „Дзедаў госць" сказала без аніводнай памылкі. Нягледзячы на нервы, якія, думаю, спадарожнічалі амаль усім удзельнікам конкурсу, маладыя дэкламатары на сцэне адчувалі сябе свабодна. А многія, так як Крыстыян Паскробка з гімназіі ў Нарве, лічыў магчымасць выступу на сцэне козырам.

— Гэты конкурс для мяне важны, таму што можна праверыць свае сцэнічныя ўмеласці, — сказаў ён пасля выступу.

Падобна думае Якуб Наўмюк (вучань пачатковай школы імя свсв. Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку). Ён сказаў, што такія конкурсы дапамогуць у будучыні ўпэўнена адчуваць сябе на сцэне. І так мы разгледзелі першую прычыну, для якой дзеці хочуць прымаць удзел у конкурсах. Другой прычынай (найважнейшай!) з'яўляецца тое, што вучні са школ з навучаннем беларускай мовы звычайна любяць гэты прадмет і ахвотна вучацца вершаў вядомых пісьменнікаў.

— Яны хочуць папулярызаваць беларускае слова таму, што не ўсе валодаюць беларускай мовай, — адзначыла настаўніца школы ў Нарве Ніна Абрамюк. — На польскай мове, вядома, усе гавораць, а па-беларуску не ўсе. І яны тым ганарацца.

Можна было б яшчэ знайсці трэцюю прычыну, для якой дзеці любяць дэкламатарскія конкурсы, а нават і чацвёртую. Менавіта ўсіх заахвочваюць узнагароды. Якуб Наўмюк прызнаўся, што разлічвае на высокае месца і цікавыя падарункі. А тыя напэўна спадабаліся дзецям, якія чытаюць вершы, таму што за найлепшыя выступленні чакалі ўзнагарод, такіх як ваўчары на закупку кніг. На канцы яшчэ закрану магчыма малаважную тэму, якая, аднак, таксама цешыць вучняў. Ідзе тут пра заняткі, якія прападаюць дзецям у дзень конкурсу. Напрыклад, вучням з Бабік дзякуючы конкурсу прапалі заняткі па матэматыцы.

Як адзначыў адзін з членаў журы д-р Васіль Сегень, узровень дэкламацыі вершаў з году ў год павышаецца. А гэта сведчыць, што вучні сур'ёзна падыходзяць да заняткаў па беларускай мове, дзякуючы чаму лепш ёю валодаюць. Думаю, што гэта кожны з вас можа лічыць самай вялікай узнагародай, якая застанецца назаўсёды.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Вершы Віктара Шведа

## Першы фотаапарат

У шпіталі матка
Нарадзіла дзіцятка.
А татка безупынку
Робіць дзіцяці здымкі.

Кажуць: — Радасць у хаце
Па першым дзіцяці!
— Першым тут акурат
Мой фотаапарат!

## Не пужае нас двойка

На бацькоўскім сходзе
Сказаў настаўнік бойка:
— Атрымаў ваш Валодзя
З геаграфіі двойку.

— Не пужае нас гэта,
Адказаў бацька Федзя,
Не цікавімся светам,
Анідзе не паедзем.

## Класнае выхаванне

— Што ты чытаеш Ваня?
— Кніжку аб выхаванні.
Хачу праверыць, мама,
Ці згодна з праграмай.

Бацька мой і маці,
У нашай роднай хаце
Далі сыночку Вані
Класнае выхаванне.

## Леў пакорны львіцы

Настаўнік кажа:
— Ведаць трэба дзеці,
Што грозны леў, ён цар звяроў,
Нікога не баіцца на тым свеце
І пакарыцца свет яму гатоў.

Не мог з такой
ацэнкай пагадзіцца
Удумлівы надзвычай вучань Клім:
— Баіцца леў страшэнна
сваёй львіцы
І ёй заўжды пакорлівы зусім.

№ 18 [05-05-2013]

# У нас мода на конкурсы

**Інтэрв'ю з Валянцінай Бабулевіч, старшынёй камісіі прадметнага конкурсу па беларускай мове ў гімназіі, настаўніцай беларускай мовы ў Комплексе школ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.**

**Зорка:** — Ці сёлетні конкурс па беларускай мове адрозніваўся ад папярэдніх?

**Валянціна Бабулевіч:** — Для мяне ён падабаўся больш чым у мінулых гадах. Чаму? Вельмі добра і ўсебакова быў прыдуманы тэст. Было многа пытанняў да задачы з тэкстам. У гэты раз было больш літаратуры чым граматыкі.

**З:** — Менавіта, ці сучасны гімназіст чытае літаратуру ці рэзюме?

**ВБ:** — На жаль, і гэта відаць з году ў год, вучні чытаюць намнога менш і горш. Прадметныя конкурсы заставаюцца да чытання літаратуры, а не рэзюме, і гэта вельмі карысная з'ява. Тыя, што рыхтаваліся да конкурсу, былі вымушаны прачытаць літаратурныя творы.

**З:** — Бельская гімназія мае 14 лаўрэатаў па беларускай мове (усіх 35). Хто яшчэ дасягнуў высокіх вынікаў?

**ВБ:** — Важна, што ўдзельнічалі ўсе дзевяць гімназій, дзе вядзецца навучанне беларускай мовы. Многа лаўрэатаў у Нараўцы, здаецца аж шасцёх. У нашай школе вялікае зацікаўленне конкурсамі. Кожны гімназіст лічыць гонарам выбраць сабе прадмет і паспрабаваць сіл у спаборніцтве. Можна сказаць, што ў нас — мода на конкурсы. Сярод настаўнікаў таксама вялікая ангажаванасць. Мы практычна працуем круглы год. Ужо цяпер, калі мы закончылі сёлетні этап і ведаем вынікі, думаем пра наступны год. Мы збіраем вучнў і пачынаем гатовіць іх на наступны год.

**З:** — У гайнаўскай белгімназіі таксама здольная моладзь, але там, калі ідзе пра поспехі ў прадметных конкурсах, няма такіх дасягненняў. Думаю, што ў вас спрацоўвае спалучэнне пачатковай школы і гімназіі.

**ВБ:** — Сапраўды, у нас лягчэй. Мы ведаем вучняў з пачатковай школы і звычайна тыя, што былі ўжо лаўрэатамі, паўтараюць свой поспех у гімназіі. Яшчэ мяне цешыць тое, што яны не адкідаюць беларускай мовы. Каміль Сцепанюк — лаўрэат па многіх прадметах, вельмі добра напісаў працу па беларускай мове.

**З:** - Якое значэнне мае конкурс у працэсе навучання?

**ВБ:** — Я думаю, што ў нашай сітуацыі кожны конкурс патрэбны, бо тут мы не толькі пашырым веды. Важна, каб вучні сустрэліся, пабачылі, што ў іншых школах таксама вывучаюць беларускую мову. Мяне, напрыклад, вельмі цешыць, што навучанне адбываецца ў праваслаўнай школе імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Не магу дачакацца, калі яны прыедуць і будуць пісаць конкурс у гімназіі. Асабліва гэта вельмі важна для дзяцей з вёскі. Яны бачаць, што прыязджаюць іх аднагодкі з Бельска ці Беластока, выступаюць у розных конкурсах і тады ім самім хочацца паказацца, праявіць сябе. Мне адзін вучань прызнаўся, што ён спачатку хадзіў на ўрокі паняволі, але калі пачытаў, зразумеў, што гэта цікава. Важна, каб малады чалавек захацеў вывучаць беларускую мову ў ліцэі, а пасля ў жыцці ўзяў у рукі беларускую газету ці кніжку.

**З:** — Сёння, 11 красавіка, у час урачыстага падвядзення вынікаў прадметных конкурсаў у гімназіі за 2012/2013 школьны год, калі называлі найлепшыя школы і лаўрэатаў, шмат разоў прагучэла словазлучэнне „беларуская мова". Як у такі момант адчувае сябе настаўнік беларускай мовы?

**ВБ:** — Я сядзела з паднятай галавой. Мы, як адзіная меншасць на Падляшшы, маем дасягненні па роднай мове. Можа замала пра гэта гаворым, замала гэтым ганарымся. Гэта гонар і пазітыўны штуршок да працы. Мы перамагаем з беластоцкімі гімназіямі, дзе намнога большая колькасць вучняў.

**З:** — Яшчэ раз віншую і дзякую за размову.

**ВБ:** — Дзякую.

# Музыка з кайфам

## Растанцавацца па-беларусу!

У Беластоку некалькі гадоў таму прыдумалі гарадскія танцы. Цікавая і, як аказалася, вельмі добра ўспрынята беласточанамі ідэя. Людзі танцавалі ў агародах Палаца Браніцкіх, у месцы, якое калісьці вызначала рытм жыцця горада. Дагэтуль адбыліся толькі два выпускі.

А беларускія гарадскія танцы ладзяцца рэгулярна. Факт, у клубах, заўсёды пад гукі аркестра, якому не трэба вялікіх ганарараў. Падыгрываюць людзі з запалам і цягай да беларускіх танцавальных традыцый.

Адным з лідараў актыўнасці фольк-танцавальна-гарадскіх калектываў з'яўляецца Яўген Барышнікаў, пра якога ў апошнім часе распісаліся беларускія СМІ ў сеціве. Я з прыемнасцю падтрымаю пазітыўную атмасферу вакол яго асобы, бо прыйшлося мне з ім супрацоўнічаць у музычным плане. Бачыла я ягоную цягу да беларускай дуды, да музычнай кааперацыі і агульную патрэбу прэзентаваць гэты інструмент публіцы. Яўген Барышнікаў, побач Алеся Лося і Тодара Кашкурэвіча, — адзін з самых вялікіх папулярызатараў беларускай дуды ў Беларусі і ў свеце. Адсочвае ён літаратуру па гэтым інструменце, складае планы яго распаўсюджання, збірае інфармацыю аб прысутнасці дуды ў жыцці нашых продкаў і выклікае з сябрамі патрэбу рабіць дуды і граць на іх. Мэта? Каб дуда стала сучасным сімвалам Беларусі. І прамаўляе за гэтым шмат аргументаў. Як тлумачыць наш даследчык дуды Яўген Барышнікаў, існуе вялікая канкурэнцыя ў свеце ў гэтай галіне: шатландскія, галісійскія, шведскія дуды, дударскія аркестры, фестывалі. У гэтым кантэксце беларуская дуда, крыху забытая, патрабуе арганізаванай рэвіталізацыі. І тут Яўген Барышнікаў мае ідэю. Каб будучыня дуды звязана была з беларускай міфалогіяй гэтага інструмента, каб дуда вярнулася ў абраднасць — вяселле, хрысціны, а нават пахаванне. Шмат працы, але яна вядзецца пастаянна і рукі дуды заражаюць чарговых людзей. Іграюць маладыя, але трэба, каб пачалі вучыцца дзеці і вярнуліся старыя. Гэта было б штосьці! Пакуль Яўген Барышнікаў даходзіць да беларусаў рознымі каналамі, між іншым гіпнатызуе ў час сваіх бардаўскіх канцэртаў, якія маюць сваю публіку. Абавязкова трэба дадаць, што Яўген Барышнікаў аднетны таксама ў тым, што апрача захаплення традыцыямі і дзейнасцю ў Дударскім клубе, займаецца дызайнам пры дапамозе сучасных тэхналогій — адно другога не выключае.

**i_basovka@o2.pl**

# Загадка № 18

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў «Зорку» да 19 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Чараўніца да нас*
*завітала —*
*Усё ажыло,*
*Заспявала.*

Уладзімір Карызна

Адказ на загадку № 10-13: Калёсы ў возе. Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі **Магда Пташынская** і **Патрыцыя Бядрыцкая** з Нараўкі. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 14:

Парог, гром, одум, крыжаванка, граматыка, парад, баран, бой, Ніна, ода, рым, Каларада. Пуп, абы, гром, край, горад, дым, на, ружа, іл, мат, на, выбар, ака, набор, мак, Ада, сасна.

Узнагароды, пакеты з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Вераніка Пташынская**, **Юлія Масайла** з Дубін, **Юлія Лясота**, **Мілена Яцкевіч**, **Агата Саковіч**, **Вікторыя Патонец**, **Аня Радзівончык**, **Наталля Марчук** з Нараўкі, **Магда Мышко**, **Клаўдзія Яканюк**, **Ніканіна Кучынская**, **Магдалена Ваўранюк**, **Юлія Скарбіловіч** з Бельска-Падляшскага, **Мартына Леанюк** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zbiór | Nasz / Biesiada | | | | Siła | Maj | Przecho-dzień | Oj | |
| | | | | Rodzina | | Niemen | | | |
| | | | Niebie-ski | | | | | | |
| Lek | | Zielony / Szyfr | | | | | | | Chór |
| | | | Mama | | | | | Bierz | |
| Dola / Woda | | | | | Okno | | | | |
| | | | | Jan | | | | | |

# Белавежскія цуды

Белавежская пушча з'яўляецца ўнікальным у сусветным маштабе лясным комплексам біясфернага запаведніка. У 1979 годзе ён увайшоў як толькі адзін польскі прыродны аб'ект у сусветную спадчыну ЮНЕСКА. Унікальнасць гэтай тэрыторыі не абмяжоўваецца выключна прыроднымі значэннямі. Не менш важны схаваны духоўны аспект. Таямнічыя падзеі і адкрыцці, якія адбыліся ў апошнія гады ў Белавежскай пушчы, здаецца, пацвярджаюць унікальнасць гэтых ваколіц.



Першым чалавекам, які публічна звярнуў увагу на эзатэрычнае значэнне раёна быў Мяфодзій Раманаў — ляснік і эколаг ды акультыст, працуючы ў 20-я гады ў абароне Белавежскай пушчы. Выраз яго захаплення Белавежжам быў апублікаваны ў 1925 годзе ў Катавіцах у «Духоўнай бібліятэцы ведаў» у кнізе «Духоўныя скарбы лесу». Прапануе ён там разглядаць пушчу не ў якасці вытворцы драўніны, але як рэзервуар духоўнай энергіі. Невыпадкова нашы продкі пакланяліся бажаствам у густых лясах, святых гаях і на палянах. Раманаў лічыць, што назва Белавежа звязана з культам праславянскага Белабога.

Раманаў у сваёй працы прапаноўвае спосаб духоўнага развіцця праз кантакт з прыродай. Лес з'яўляецца для яго прыкладам гарманічнага сацыяльнага жыцця ў яе натуральным стане. Зносіны з прыродай і зразуменне яе таямніц змогуць дапамагчы чалавеку адчуваць праявы свайго духоўнага стану. Мяфодзій Раманаў сцвердзіў, што якраз у Белавежы і яе наваколлі выступае вельмі вялікая канцэнтрацыя энергіі. У гэтай кнізе ён пісаў: «Ёсць кропкі на зямным шары, якія маюць невытлумачальную сілу ўздзеяння на духоўнае развіццё чалавека».

У 70-х гадах мінулага стагоддзя стала вядомай гіпотэза рускіх навукоўцаў Мікалая Ганчарова, Вячаслава Марозава і Валерыя Макарава, што зямны шар мае крышталічную структуру. На Зямлі, падобна як на паверхні крышталя, знаходзяцца кропкі і лініі актыўнай энергіі. Праплывае праз іх жыццёвая энергія. Гэтым тыпам станоўчай энергіі прыроды займаецца галіна навукі — геамантыя. Рускія даследчыкі выявілі, што на крышталічнай сетцы ліній і вузлоў Зямлі ўтвараюцца найважнейшыя цэнтры цывілізацыі і культуры. На сетцы ліній ляжыць менавіта Белавежская пушча.

У некаторыя дні з'яўляюцца часам магутныя пераўтварэнні энергіі ў прыродзе, асабліва ў раёнах уздоўж названай лініі. Таму, каб праводзіць даследаванні, можна выбраць у Белавежскай пушчы 30 красавіка. Фактычная інтэнсіўнасць выпраменьвання ў гэты дзень дасягае магутнага значэння. Цікава, што знойдзеныя частоты выпраменьвання паводле радыестэзійных метадаў вакол дрэва адпавядаюць рытму дыхання чалавека і колькасці ўдараў сэрца ў хвіліну.

Адны лініі моцы, якія праходзяць праз Польшчу да заходняй мяжы, прабягаюць па Белавежскай пушчы. Менавіта там знаходзяцца два самыя найбольш выпраменьваючыя месцы: каменны круг (у 6 кіламетрах на паўднёвы-захад ад Белавежы) і група дубовых дрэў на ўзгорку ў мясцовым палацавым парку, заснаваным у 1895 годзе пры паляўнічым палацы расійскага губернатара.

## Таямнічыя з'явы вакол незвычайнага дрэва

Гай у Палацавым парку з'яўляецца найбольш шматлікай групай дубоў у Белавежскай пушчы, налічваючым ад 250 да 300 гадоў. Гэтае месца ў старыя часы было «Святым гаем», у якім нашы продкі святкавалі абрады. Лешак Матэля лічыць, што прысутнасць выпраменьвання ў гэтым месцы з'яўляецца такім жа, як чалавечае дыханне.

Аб унікальнасці гаю сведчыць падзея з не вельмі далёкага мінулага. У пачатку 1990-х гадоў, на месцы адцятай спарахнелай галіны аднаго з дубоў пачаў паяўляцца малюнак, у якім прызналі твар Архангела Гаўрыіла, анёла, абвяшчаючага важныя навіны. У снежні 1991 года ў суседняй вёсцы Віскулі, якая ляжыць у беларускай частцы Белавежскай пушчы (13 км ад гэтага дуба), было падпісана пагадненне, у адпаведнасці з якім Савецкі Саюз спыніў сваё геапалітычнае існаванне, і з'явілася Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Пасля гэтай падзеі малюнак паступова стаў траціць сваю выразнасць. Аднак, нягледзячы на неаднаразовае замалёўванне вобліку фарбай, надалей ён праяўляецца.

Жыхары Белавежы ляснік Пётр Байко і лекар д-р Сяргей Тарасевіч сабралі шырокі матэрыял для серыі загадкавых падзей, якія мелі месца вакол незвычайнага дуба. Таямнічыя прамяні, якія з'яўляюцца вакол дрэва, маюць вельмі моцнае ўздзеянне. Многія людзі адчуваюць пад дубам паколванне ў канечнасцях, дысбаланс і нават паразы скуры. Людзі з медыюмічнымі здольнасцямі адчуваюць магутную энергію месца, бачаць незвычайныя прывіды. Такая з'ява ў эзатэрычнай літаратуры вядомая як геній месца, дух месца. Доктар Тарасевіч адчуваў энергію, якая выступае з дуба ў выглядзе сферы, кулі. Кожны раз, калі знаходзіцца пад дрэвам і настаўляецца на атрыманне энергіі, нейкая сіла ўводзіць у яго далоні выяўленне сферычнай формы.

— Пад гэтым дубам мы стаялі ў купальскую ноч з Юркам Валкавыцкім і Сяргеем Тарасевічам, — прызнаецца Міра Лукша. — Уяўлялася мне, што самі знаходзімся ў вібруючым сферычным кшталце, які ахапляў нас, дрэва і ўвесь гай.

— Яго сіла можа зачароўваць, і натхняць, і заахвочваць духоўна. Усё залежыць ад нашых адносіны, — кажа Сяргей Тарасевіч. — Важна, каб быць у стане свядома адкрытым да станоўчай энергіі, засяродзіцца на станоўчых і стымулюючых эфектах. Цудоўным прыкладам такога стаўлення з'яўляецца белавежац з роду Барыс Руско, здольны «размаўляць» з навакольнымі дубамі на іх «гаворцы».

Медытацыя каля белавежскага дуба вельмі глыбокая. Уражлівыя людзі кажуць, што яны адчуваюць як быццам нейкая невядомая сіла пацягнула іх у «іншае вымярэнне». Ля белавежскага дуба чуюцца таксама невытлумачальныя акустычныя з'явы. Пётр Дваракоўскі 30 красавіка 1995 г. разам з групай турыстаў быў сведкам незвычайных гукаў. Незадоўга да заходу сонца, у цішыні вакол раптам людзі, якія стаялі вакол дуба, пачулі як зверху даносяцца незвычайныя шумы. Яны маглі пачуць размовы на рускай мове, роў звяра, плач дзіцяці. Гукі трывалі прыкладна 6-10 хвілін. З іншага боку была глыбокая цішыня.

— Некалькі гадоў таму ў Белавежскай пушчы я стаў сведкам вельмі своеасаблівай сцэны. На Палацавым пагорку быў стары гатэль «Іва». Тут расце група дубоў, якім па некалькі стагоддзяў, — успамінае Ян Лысакоўскі. — Дубы-гіганты ўтвараюць свайго роду круг. Унутры круга лесу проста сядзелі тры маладыя, прыгожыя дзяўчыны, сядзелі як акамянелыя. Прайшла яшчэ хвіліна, і яны проста зніклі.

## У каменным крузе

Табліца пра Месца моцы прыкладна ў 500 метрах за Белавежай, у напрамку Гайнаўкі. Можна з'ехаць налева на памечаны шлях. Драўляная статуя паказвае дарогу да аддаленага на 4 км Месца моцы. Едучы ўздоўж яе леваруч мінаеце драўляную альтанку, памятку пасля наведвання Белавежжа Эдвардам Геркам у 70-х гадах. Праз прыкладна тры чвэрці гэтага адрэзка праязджаеце праз закінуты чыгуначны пераезд старога маршрута Гайнаўка — Белавежа. Тут інфармацыйная табліца пра Месца моцы. За бар'ерам, направа, адыходзіць невялікая лясная сцяжынка. Ідучы ёю, дасягаеце прыкладна праз 1 км уваход у акружную навуковую сцежку.

Знаходзіцца тут драўляная шыльда і рассеяных шмат камянёў. Мабыць гэта частка месца пакланення праславян. Бачны спрыяльныя ўмовы для развіцця флоры і фаўны — пра гэта сведчыць колькасць вузлоў разгаліναванняў дрэў, якія растуць там. Некаторыя дрэвы разгаліноўваюцца на два ці тры даволі нізка ад зямлі. Гэты раён таксама вельмі шчодра пакрыты раслінамі. Па гэтай прычыне некаторыя людзі прыпісваюць гэтаму месцу магічныя сілы і іншыя, па крайняй меры, магнітныя. Пацверджаны даследаванні, якія паказваюць падземныя вадацёкі і рэкі.

Доктар Тарасевіч выявіў некалькі загадкавых месц у Пушчы. Якраз гэтае знаходзіцца ў 495 квартале, прыкладна ў 6 км ад паўднёвага-захаду Белавежскай пушчы. Напрамак ходу паказвае сцяты пень дуба, абкладзены некалькімі бетоннымі плітамі. На пласцінах высечаны праваслаўны крыж, дата 20 X 1947 і таямнічы радок літар: KWLMWBNJ.

Пасля таго як адсунулі адну з пласцін аказалася, што пад ёй знаходзіцца камень з адціснутай босай ступняй. Ён паказвае кірунак праходу ў размешчаную ў больш за дзесяць метраў далей палянку. Цэнтр месца моцы стварае крыж у выглядзе круга з каменных валуноў. Пад пластом моху дробныя камяні размешчаны так, быццам хтосьці выбрукаваў гэтую тэрыторыю. Сіметрычнае размяшчэнне камянёў і паўторы адлегласці паміж імі паказваюць, што гэта аб'ект свядома пабудаваны былымі жыхарамі пушчы. Унікальнасць месца ўзмацняецца нетыповасцю навакольных дрэў. Большасць з іх разрастаецца ўжо ад каранёў. Растуць тут таксама незвычайныя для лясных віды, такія як глог, груша і яблыня. Праведзеныя тут даследаванні круга абазначаюць, што ўздзейнічае тут вельмі моцнае выпраменьванне. Камяні дзейнічаюць як натуральны фільтр, верагодна, паглынаючы шкодныя выпраменьванні і пранікаючы станоўчымі і карыснымі для чалавека кампанентамі. Загадку тлумачыць Лешак Матэля — міжнародны аўтарытэт у галіне геамантыі і біялакацыі, аўтар некалькіх кніг на гэтую тэму. Пагорак, пакрыты дрэвамі, так званае месца моцы, другое ў Польшчы (у Кракаве — Каралеўскі замак на Вавелі), у натуральным выражэнні на карысць чалавечай энергіі.

У старажытныя часы ў каменным крузе адзначалі паганскія абрады. Даследуючыя яго лазаходцы Лешэк Матэля і Анджэй Цюпэк знайшлі ўім вельмі высокую энергаёмістасць. Значна больш, чым тая, што пануе на Яснай Гары, але ніжэйшая, чым у Грабарцы. Такім чынам, дубы, бярозы, елкі і хвоі тут вельмі разрослыя. На высокі ўзровень прамянявання паказваюць тут незычайныя падвоенні крон дрэваў. Анджэй Цюпэк мяркуе, што Белавежская пушча расце над залежамі мелу, якога белы колер у радыестэзіі азначае сілу, карысную для здароўя чалавека.

Паводле Сафіі Пепюркі, якая таксама даследуе асаблівасці гэтага месца, цэнтральны каменны круг быў вельмі старанліва пакладзены на скрыжаванні некалькіх ліній. Што цікава — пасылае ён энергію на рэгулярнай аснове, у адпаведнасці з біццём сэрца чалавека. Затое камяні па перыметры круга камянёў выступаюць у якасці «ўзмацняльніка». Аказваецца таксама, што ў крузе можна пачуць «музыку», а таксама запісаць яе. У першы момант чуецца гук, прыгадваючы шум радыёпрыёмніка, але пасля праслухоўвання некалькі разоў можна вылавіць рытм паўтаральных імпульсаў.

Людзі, якія прыязджаюць сюды, кажуць, што калі больш трымаць рукі над каменем, адчуваюць паколванне ў пальцах. Адчуваюць стан ашаламлення. Лічаць нават, што знікаюць старыя болі, паляпшаецца настрой і ад'язджаюць з Белавежжа загружаныя станоўчай сілай. Кажуць, што пасля наступлення цемры адчувальныя людзі бачаць, як плавае вакол каменнага круга зелянява-блакітнае свячэнне. Як сцвярджаюць лазаходцы, гэта адбываецца толькі ў выпадку месца, якое выпускае вельмі жыватворную і станоўчую для людзей энергію.

У парк прыязджаюць шматлікія турысты, каб адчуць усю моц гэтага месца. Некаторыя людзі едуць проста адпачыць. Іншыя — для медытацыі, і як прызнаюцца, для пераходу ў стан «іншага вымярэння». Іншыя адчуваюць канкрэтныя ўявы. І хаця ўсе згодныя з тым, што нават паветра тут мае свой унікальны пах, кожны па-свойму выпрабоўвае тут сілу прамяністай энергіі.

**Марта БАРАВАЯ**




Галоўны будынак цеханавецкага музея, адрамантаваны былы палац Стажэнскіх

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Цеханавецкі аспект

**Апынуўшыся ў Цеханоўцы, воляй-няволяй навалілася на мяне асацыяцыя з нядаўнімі публікацыямі нашых аўтараў на нашых старонках наконт нашага Беларускага музея ў Гайнаўцы. Бо ж сумна вядома, што экспанаты з першых фондаў задуманага пакойным Канстанцінам Майсенем нашага беларускага музея, што былі сабраны ў Белавежу, апынуліся менавіта ў Цеханоўцы ў фондах тамашняга Музея сельскай гаспадаркі. Адказу на пытанне, чаму і кім былі сарваны першыя захады па стварэнню ўстановы, якая б захавала хаця частку нашай спадчыны, трэба было б, здаецца мне, шукаць перш за ўсё ў глыбінках нашага тутэйшага менталітэту, у яго атавістычных фондах.**

Цеханавецкі музей знаходзіцца вельмі недалёка тамашняга аўтобуснага вакзала. Называць сёння вакзалам месца, дзе спыняюць і пачынаюць сваё курсіраванне аўтобусы, здаецца быць недарэчнасцю, калі глянуць на іх дзейнасць у павятовых Сямятычах, Саколцы, Бельску ці Гайнаўцы. Але ў Цеханоўцы, адкуль далекавата да павятовых цэнтраў, працуе аўтобусная каса, у звычайны будні дзень пасярэдзіне месяца, калі не прадаюцца месячныя білеты. Але музей — ён сваім выглядам звонку аж просіцца, каб яго наведаць; не прадбачыў я акурат на такое часу. Гэта даволі абшырная тэрыторыя, дзе размешчана шмат будынкаў, жылых і гаспадарчых — крытых саломай. І нават культавы — крыты драніцай. А пасярод гэтых збудаванняў авечкі насалоджваюцца мірным суіснаваннем з даступнай ім прыродай. Крышку далей павільён з нейкай сельскагаспадарчай тэхнікай, а яшчэ далей даўні палац мясцовых землеўладальнікаў. Брама ў музей шырока адкрыта, а калі я пераступіў яе, каб бліжэй падысці да палаца, паявіліся знедалёк работнікі, якія паінфармавалі мяне, што для шпацыру па тэрыторыі музея трэба выканаць адно патрабаванне — запасціся білетам. Але на гэта трэба часу...

Час у мяне з'явіўся пазней, каб заглянуць не так у сам цеханавецкі музей, але ў ягонае віртуальнае аблачэнне. Годам таму, 3 мая 2012 года, бурмістр горада Цеханоўца быў сказаў наступныя словы: „W tym roku przypada 50-ta rocznica powstania jedynej w swoim rodzaju inicjatywy społecznej jaką jest Muzeum Rolnictwa im. księdza Krzysztofa Kluka. Powstanie i rozwój tej placówki poparte bezinteresowną życzliwością całego naszego środowiska jest pięknym przykładem dobrze wykorzystanego patriotyzmu lokalnego. Ten piękny, złoty jubileusz jest okazją do zadumy i świętowania przez wszystkich, którzy czy to jako wolontariusze czy pracownicy wnosili przez te długie lata swój cichy wkład w to czym ciechanowieckie muzeum jest dzisiaj — a jest niewątpliwie Perłą, z której możemy być dumni. Dla uczczenia tej rocznicy za kilka dni najnowsza ulica Ciechanowca otrzyma imię współzałożyciela i długoletniego pierwszego dyrektora Muzeum Rolnictwa Kazimierza Uszyńskiego”. І мне неяк так падумалася, што нешта ў той прамове варта падкрэсліць.

Два тыдні пазней адбылася ўрачыстая сесія Гарадской рады Цеханоўца: „Uroczysta sesja rady miejskiej w Ciechanowcu 17 maja była częścią obchodów 50-lecia Muzeum Rolnictwa. Podjęto na niej uchwałę o zmianie nazwy odcinka ulicy Szkolnej w Ciechanowcu na ulicę Kazimierza Uszyńskiego. Na sesję przybyli licznie mieszkańcy ciechanowieckiej gminy, posłowie, samorządowcy. Pan Burmistrz przedstawił życiorys, całokształt pracy pierwszego dyrektora Muzeum Rolnictwa w Ciechanowcu Pana Kazimierza Uszyńskiego. Przewodnicząca Rady Miejskiej stwierdziła, że projekt uchwały opiniowały wszystkie Komisje Rady Miejskiej na wspólnym posiedzeniu i wypracowały pozytywną opinię. Pytań do projektu uchwały nie było.

Przewodnicząca Rady Miejskiej odczytała projekt uchwały i poddała pod głosowanie. W głosowaniu udział wzięło 14 radnych, za podjęciem uchwały głosowało 14 radnych”.

Можа тут паявіцца пытанне: а чаму ж такую важную вуліцу вылучылі толькі з часткі іншай, чаму не назвалі важным імем нейкай цэлай вуліцы? У адказ здаецца мне, што ў вулічных фондах Цеханоўца няма такой вуліцы, якую б можна было б перайменаваць у цэласці. У Цеханоўцы няма трыдцый рэвалюцыйнага руху, такіх як у Гайнаўцы, якая сама здаецца быць музеем гэтага рэвалюцыйнага руху. Магчыма, што я адстаю з высочваннем гайнаўскіх івентаў, але здаецца мне, што там яшчэ захаваны зацішныя вуліцы, прысвечаныя некаторым героям „чырвонай” Гайнаўкі, напрыклад, Гібнеру, Кнеўскаму і Руткоўскаму. Ці справядліва? Здаецца мне, што так...


Былая сінагога ў Цеханоўцы


Касцёл у Пэрлееве

Вікіпедыя: „Władysław Hibner w lipcu 1925 razem z Władysławem Kniewskim i Henrykiem Rutkowskim zgłosił się na ochotnika do zabójstwa Józefa Cechnowskiego, który został zidentyfikowany jako agent policji w ruchu komunistycznym. Hibner objął dowództwo grupy. 17 lipca 1925 zamachowcy oczekiwali na spotkanie z Cechnowskim na ulicy Zgoda w Warszawie, podczas którego mieli go zastrzelić. Podczas próby wylegitymowania przez dwóch wywiadowców policyjnych, Hibner, Kniewski i Rutkowski zaczęli strzelać, a Hibner ranił śmiertelnie policjanta Kazimierza Lesińskiego. Podczas ucieczki, gonieni przez policjantów i przechodniów, Hibner z Rutkowskim ostrzeliwali się, raniąc kilka osób. Na ulicy Chmielnej ranili śmiertelnie studenta Aleksandra Kempnera. Podczas dalszej ucieczki Hibner i Rutkowski postrzelili śmiertelnie policjanta starszego posterunkowego Feliksa Witmana oraz matkę z dzieckiem. Obaj zamachowcy ukryli się następnie w składzie węgla przy ul. Żelaznej 21, gdzie podczas ataku policji ranili kilku dalszych policjantów. Ostatecznie ranni zostali ujęci przez policję”. Паводле сённяшніх юрыдычных нормаў маглі б яны быць названы тэрарыстамі, як Брэйвік ці браты Царнаевы. Але маглі б жа быць таксама прылічаны і ў лік герояў, якіх дзеянні тлумачыў бы „stan wyższej konieczności, który zmusił ich do podjęcia działań nie zawsze jednoznacznych etycznie”, так, як ад імя Рэчы Паспалітай тлумачыў тутэйшыя подзвігі Рамуальда Райса „Бурага” суд Варшаўскай ваеннай акругі ў 1995 годзе. Наш космас жа рэлятыўны...

Гайнаўка, нашая любіменькая Гайнаўка, яна ж у нас астаецца не толькі музеем рэвалюцыйнага руху, але нават больш — такім маленькім еўрасаюзным Савецкім Саюзам, так як Беларусь не за гарамі, дзе квітнее культ рэвалюцыйных герояў з Леніным і Дзяржынскім, і Сталіным і г.д. Толькі ў нас такія свае, на нашую мерку, сціпленькія тутэйшыя героі: Гібнер, Кнеўскі, Руткоўскі...

Вяртаюся ў Цехановец. Партал тамашняга музея аздоблены лозунгам: „Instytucja kultury województwa podlaskiego”. І пачынаецца са слоў: „Muzeum Rolnictwa im. ks. Krzysztofa Kluka powstało w 1962 r. z inicjatywy Towarzystwa Miłośników Ciechanowca”. Далей успамін заснавальніка музея: „Ciechanowieckie muzeum wyrosło (...) ze społecznej woli i społecznego działania. Jego dzieje zaczynają się od przekazanych w darze do jego zbiorów pierwszych eksponatów i od pierwszych łopat gruzu wybranych spontanicznie z ruin pałacu przez dorosłych i młodzież szkolną. Ludzka życzliwość i społeczna, bezinteresowna pomoc towarzyszyły później muzeum przez całe czterdziestolecie. Tysiące ludzi znanych i nieznanych, z Ciechanowca, okolic, miasta, powiatu, województwa, całej Polski i zza granicy (...), były zaangażowane w tworzenie placówki, której historia, wygląd i działalność zaświadczają, że wspólnymi siłami można przenosić góry”. Быццам гэта ўсё такое знаёмае, толькі вось пра нейкія судовыя разборкі — ні слова; усё ж такі не наш дух, шляхта. А мы — мужыкі-рэвалюцыянеры...

У Цеханоўцы, як я ўжо быў даўней пісаў, захаваліся сляды шматкультурнасці і шматканфесійнасці. Дарожка цераз дамбу на рацэ Нурэц вядзе ад згаданага музея да рамантаванага будынка колішняй сінагогі, а далей у напрамку царквы. Як падае польскі „Праваслаўны каляндар” за мінулы год, у Цеханавецкім прыходзе ў 1870-х гадах пражывала амаль чатыры сотні праваслаўных вернікаў, а ў 1919 годзе асталося іх у самім Цеханоўцы 79, у Мальцы 21, у Пшыбышыне 7, у Кулаках 14, у Пэлху 5, у Кобусах 32 і ў Радзішэве 10. Было гэта амаль сто гадоў таму, цяпер жа, мабыць, лікі тыя намнога меншыя...

З Цеханоўца падаўся я ў гмінную мясцовасць Пэрлеева. У гэтай гміне ёсць некалькі вёсак з агульнай назвай Тварогі, у іх ліку Тварогі-Ляцкія, і Тварогі-Рускія, і Тварогі-Мазуры. Чаму мясцовасці атрымалі такую кулінарную назву — загадкава, але чаму арыентаваную нацыянальна — няцяжка здагадацца. Дарэчы, тут падказкай і прыведзеныя вытрымкі з колішняга канфесійнага краявіду тамашняга старонння. Да таго ж тут яшчэ і іншая падказка пра ўсходнія сляды: Пэрлеева, так як і Тварогі, распалажана над рачулкай Пэлхуўкай, якой крыніцы між Макаркамі і Чорнай-Вялікай, што ў Гродзіскай гміне. Адкуль жа магла ўзяцца тая назва, Пэлхуўка?.. У пойме рэчкі шмат поўшых конусікаў, ад якіх, мабыць, рака займела першабытную ўсходнеславянскую назву Поўхаўка, але з ходам дэмаграфічных працэсаў стала яна паланізавацца, прымаючы прымальную польскай мове назву Пэлхуўка. Мабыць, тое самае сталася і са згаданай вёскай Пэлх, у якой жыло калісь насельніцтва з усходнеславянскімі каранямі.

Гэта наконт пэрлееўскай рэчкі. Партал Драгічынскай дыяцэзіі пра само Пэрлеева піша так: „Pierwotna nazwa tej wsi brzmiała Pierlejewo”. Гэтак жа мясцовасць называецца і ў Слоўніку Каралеўства Польскага. Пра Тварогі-Ляцкія: „O tej wsi w okolicy mówią „Twarogi — złote rogi”, a to z powodu urodzajnych pól i łąk, obszernych wygonów wśród wsi po nad rzeką, dogodnych pastwisk, niebrakującej nigdy wody i t.d., to też szlachta w tej wsi najzamożniejsza z całej parafii i wszyscy są mniej lub więcej wykształceni, czytać nieumiejących nie ma”. І далей: „Prócz jednego domu w Kosiance Leśnej prawosławnego i kilkunastu żydów napływowych czasowo bawiących, żadnych inowierców w parafii dotąd nie było; w 1884 r. w Pierlejewie prawosławny strażnik ziemski nabył siedlisko, pobudował dom i osiedlił się”. Лікі таксама рэлятыўныя...

4 ☞працяг

# Беларускі «пляскач»

ў Мінску) «паказвае распад мовы, яе кагнітыўных функцый, пустату адносін паміж людзьмі, якія жывуць у сваіх бурбалках уласнай ганарыстасці», — пісалі крытыкі. Аўтар скончыў прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Вучыўся ў Міжнародным інстытуце сацыяльных адносін на факультэце права і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў (спецыяльнасць — «драматургія»). Тым не менш, нічога з іх не скончыў. Працаваў слесарам, ахоўнікам, кантралёрам ачышчальных прылад. Драмы піша з 2004 года. Падобна як Дзмітрый Багаслоўскі, хаця на працягу даўжэйшага часу цэніцца на сцэнах і тэатральных фестывалях Расіі, у Беларусі бачыцца неахвотна. У час рэпетыцый да чытанняў яго драмы акцёры «Вянгеркі» (тэкст чытаўся на польскай і рускай мовах, а вядучая песня выконвалася на ўкраінскай мове) былі зачараваныя працай рэжысёра.



Іаланта Бароўская:

— З панам Гарцуевым працуецца вельмі добра. Ён мае так шмат станоўчай энергіі, сілы. Тэкст цікавы і інавацыйны. Увогуле, мне падабаецца беларускі тэатр. Творцы там валодаюць велізарнай сілай і дасканалай тэхнікай. Па пану Гарцуеве бачыцца ўжо з першай рэпетыцыі, што апрача таго, што ён рэжысёр — ён акцёр. Патрапіць свае эмоцыі перанесці на іншых і падаваць нам тое, што адбываецца ў тэксце больш выразна: у спалучэнні фізічных паводзін і слоў. Я думаю, што такія сустрэчы будуць гарантаваць, што ў будучыні мы можам працаваць разам больш цесна.

Бернард Баня:

— Гэта не першая мая сустрэча з рэжысёрам з Беларусі. Яны маюць аналагічны спосаб мыслення пра тэатр, заснаваны галоўным чынам на акцёрстве, на тым, што характэрнае для беларускага ці расійскага тэатра, на эмоцыях, на вулкане эмоцый. Тэкст, які рыхтуем, гэта сапраўды для нас, акцёраў, падстава для сустрэчы, а для акцёра сустрэча з іншым чалавекам з'яўляецца вельмі карысным вопытам. Я спадзяюся, што наш тэатр будзе наладжваць больш цеснае супрацоўніцтва з мінскім тэатрам драматургіі. Тэкст Паўла Пражкі настолькі цікавы, што сапраўды ён больш для чытання, а вялікая колькасць рэмарак у традыцыйных драмах выкарыстоўваецца толькі для ўказання напрамкаў: дзе, хто і як мае паводзіць сябе на сцэне. Тэкст кранае адны з найбольш важных пытанняў нашага часу. Гаворыць аб жаданні і няздольнасці любога паразумення і дыялогу паміж людзьмі. У цяперашні час уцякаем ад размовы, ад быцця з іншым чалавекам. Час такі, што мы выкарыстоўваем намёкі, недамоўкі, вядзем размовы «паміж», паміж працай, паўсядзённымі дзеяннямі.

У спектаклі прынялі ўдзел пяць беластоцкіх акцёраў: Іаланта Бароўская, Аляксандра Май, Бернард Баня, Славамір Паплаўскі і Пётр Шэкоўскі ды трох з РТБД: Аляксандр Марчанка, Ігар Сігаў (генеральны дырэктар тэатра) і Людміла Сідаркевіч, якая яшчэ да рэпетыцый сказала «Ніве»:

— Сустрэча з беластоцкімі акцёрамі — вельмі цікавы вопыт. Мы пабачылі ў вашым тэатры «Смерць камівояжора» Артура Мілера і «Секс у летнюю ноч» Вудзі Алена. У гэтых спектаклях бачыцца знакамітае тэхнічнае майстэрства артыстаў, яны дасканала рухаюцца і выкарыстоўваюць моўны апарат. Яны асвоілі велізарную ўнутраную рухомасць. Яны эмацыйныя, адкрытыя, выразныя. На рэпетыцыях на ляту ловяць рэжысёрскія заўвагі. Як акцёры ў сваіх характарах мы розныя, але ёсць шмат падабенства паміж намі. Мне здаецца, што знакаміта разумеемся, нават калі некаторыя словы незразумелыя. Часам дастаткова, каб толькі паглядзець адзін на аднаго, і мы ведаем, у чым справа.

На рэпетыцыях Аляксандр Гарцуеў расказваў:

— Тэксты Паўла Пражкі вельмі рэдка ставяцца ў Беларусі. Значна часцей у Расіі. У нас не ўсе яго разумеюць, таго, што ён хоча перадаць. Гэта такая субкультура. У гэтай драме няма традыцыйнага канфлікту ані сэнсоўных, у разуменні класічнай драмы, дзеянняў герояў. Гаворыць яна пра тое, што мы не чуем адзін аднаго, не разумеем, і людзі размаўляюць адзін з адным пра што заўгодна, абы гаварыць.

У рамках супрацоўніцтва мінскага таэтра беларускай драматургіі з беластоцкім драмтэатрам дырэктарка астатняга Агнешка Карыткоўская-Мазур мае ў другой палове траўня прыняць удзел у драматургічных лабараторыях (у якасці каардынатара тэатральнай уявы), рыхтаваных Цэнтрам беларускай драматургіі пры РТБД. У яго рамках разам з драматургам Мікалаем Рудкоўскім (яго твор «Дажыць да прэм'еры» быў прадстаўлены на папярэдніх чытаннях у Беластоку) і дэбютуючымі беларускімі драматургамі мае ўзнікнуць беларуска-польскі сцэнічны тэкст.

Слап-чытанні завяршыла дыскусія, прысвечаная беларускім драматургіі і драме і ў больш шырокім плане — Беларусі.




Імя беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага — старшыні беларускага праваабарончага цэнтра „Вясна" і віцэпрэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH), вядомае далёка за межамі Беларусі. Асуджаны, па сутнасці за абарону правоў людзей, ён ужо стаў адным з сімвалаў лукашэнкаўскага беззаконня. Зважаючы на пазіцыю залагоджвання некаторымі краінамі Захаду і Расіі цяперашняга беларускага правіцеля, наўрад ці Бяляцкі будзе хутка амніставаны і выйдзе на волю. І таму галоўнай падтрымкай праваабаронцы з-за крат можа быць толькі салідарнасць, прычым як мага больш шырэйшая. Другая мэта — інфармаванне чалавецтва аб тым, што робіцца ў Беларусі.

У 2011 г., калі Бяляцкі быў асуджаны да чатырох з паловай года пазбаўлення волі, у сусветным павуцінні ўзнік трохмоўны сайт, мэтай якога было праяўленне салідарнасці з Алесем. Аб гэтым „Ніва" пісала ў нумары ад 2 кастрычніка 2011 г. Нягледзячы на тое, што сайт застаўся па ранейшым адрасе http://freeales.fidh.net і тэма вызвалення Бяляцкага таксама засталася цэнтральнай, то ён цалкам змяніў выгляд і назву, то-бок яго стваральнікі правілі поўны рэстайлінг і рэбрэндынг гэтай вэб-старонкі.

Цяпер сайт называецца „Беларусь: грамадзянская супольнасць пад ударам". Сярод моў сайта па-ранейшаму няма беларускай.

Створаны на платформе WordPress, сайт мае пазнавальную будову — уверсе месяцца выйсці на рубрыкі сайта, а пад яго загалоўкам можна пабачыць фотаздымкі Алеся Бяляцкага і натоўп людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі, атачаны міліцыянтамі з дубінкамі.

„Представители гражданского общества Беларуси и, в частности, правозащитники работают в суровых условиях. Их положение находилось в центре внимания международного сообщества в декабре 2010 г., когда протестное движение против результатов президентских выборов было жестко подавлено. Многие люди были избиты, арестованы и подвергнуты административным и уголовным преследованиям", — распавядаецца на старонцы „О сайте", выйсце на якую месяцца ўверсе цэлага выяўлення. Згодна размешчанай там інфармацыі, сёння за кратамі ў Беларусі знаходзіцца не менш за 11 чалавек.

„Наш сайт рассказывает о ситуации, в которой находится гражданское общество в Беларуси, о предпринимаемых на международном уровне действиях для прекращения преследований против него, а также сообщает о том, что еще можно для этого сделать", — так вызначаюць цяпер свае мэты ўладальнікі сайта.

На галоўнай яго старонцы месяцца навіны, датычныя палітычнай сітуацыі ў Беларусі, фактаў парушэння правоў чалавека. На ёй праяўляецца адзін, але значны недахоп сайта — з левага боку там „прымацавана" рамка выйсцяў да разнастайных сацыяльных сетак, якая не дазваляе чытаць паведамленні ад самага пачатку. Спробы нейкім чынам прыбраць тую рамку нічога не даюць.

У рубрыцы „Новости от Алеся Беляцкого" мы можам азнаёміцца з апошнімі падзеямі ў жыцці за кратамі рэпрэсаванага праваабаронцы. Адметна, што абнаўляюцца яны даволі часта, зважаючы на тое, што турэмнае жыццё не надта віруе.

Аб тым, якія акцыі салідарнасці са зняволенымі па палітычных матывах у Беларусі маюць месца ў міжнародным грамадскім жыцці, можна даведацца з рубрыкі „Международная солидарность".

■ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Рэфарматар, незалежнік, філантроп

# 145 гадоў з дня нараджэння Рамана Скірмунта



7 траўня 1868 г. у мясцовасці Парэчча (цяпер Пінскі раён) нарадзіўся Раман Скірмунт, будучы беларускі палітычны і грамадскі дзеяч. Паходзіў ён з вядомага шляхецкага роду. Атрымаў першасную адукацыю ў Рыжскай гімназіі. Пасля скончыў у Варшаўскім універсітэце факультэт юрыспрудэнцыі, а ў Венскім — факультэт філасофіі. З маладых гадоў імкнуўся да грамадскай дзейнасці. Быў старшынёй Таварыства па распрацоўцы сельскагаспадарчых патрэб Палесся, адным з кіраўнікоў Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі. Потым Скірмунт становіцца адным з ідэолагаў краёвасці. Ён імкнуўся стварыць Краёвую партыю Літвы і Беларусі. У 1906 г. Скірмунт стаў дэпутатам першай Дзяржаўнай думы Расійскай імперыі, быў адным са стваральнікаў фракцыі дэпутатаў — Групы заходніх ускраін. З парламенцкай трыбуны ён выступаў за пашырэнне сялянскага землеўладання і адначасна катэгарычна бараніў прыватную ўласнасць на зямлю.

Калі прыйшоў час выспявання нацыянальнай ідэі, Скірмунт актыўна ўключыўся ў беларускі рух, фінансаваў беларускія кніжкі. У 1917 г. ён кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам і вёў з расійскім Часовым урадам перамовы пра самастойнасць Беларусі. Калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, Скірмунт таксама апынуўся на першых ролях, уваходзіў у Раду БНР, вёў міжнародную дыпламатычную місію. У складзе надзвычайнай беларускай дэлегацыі быў у Нямеччыне і Швейцарыі, дзе вёў перамовы.

Раман Скірмунт у час савецка-польскай вайны імкнуўся не дапусціць падзелу Беларусі. Калі ж у 1921 г. была падпісана Рыжская дамова, ён вярнуўся ў роднае Парэчча, дзе праводзіў свае лакальныя гаспадарчыя рэформы. Меў цукровы завод, бровар, фабрыку сукна, вадзяны млын, збудаваў касцёл, лякарню, зрабіў падмурак новага палаца. Людзі, якія ў яго працавалі, мелі вельмі годны заробак і прыстойнае жыццё. У 1930 г. абраны сенатарам Польскай Рэспублікі. Далучыўся да Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам і выступаў супраць асіміляцыі нацыянальных меншасцей. І напэўна дажыў бы да глыбокай старасці. Аднак, у 1939 г. прыйшла бальшавіцкая навала. Насуперак жаданню чырвоных камісараў на адмысловым сходзе сяляне Парэчча выказаліся за тое, каб пакінуць пана жывым і на волі. Але нейкі Холадаў адправіў Скірмунта нібыта на допыт, а сам загадаў яго забіць. Сямідзесяцігадовага арыстакрата забілі па бандыцку ў лесе па дарозе ў раённы цэнтр. Так трагічна абарвалася жыццё чалавека, які рабіў шмат дабра іншым людзям і імкнуўся да незалежнасці свайго краю. Уладзімір Арлоў піша, што ў 1939-1940 гг. загінулі ўсе мужчыны з роду Скірмунтаў, якія былі на савецкай тэрыторыі. Вядома таксама, што тыя выродкі, якія забілі Рамана Скірмунта, неўзабаве ўсе згінулі ганебнай смерцю.

Памяць пра выдатнага беларускага дзеяча належна не ўшанавана.

■ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Шануйма здароўе

Гмінны асяродак здароўя ў Чаромсе ўзнік з уваходам рыначнай эканомікі. 23 сакавіка 1999 года чыгуначную амбулаторыю і аптэку перавялі з вуліцы 1 Мая ў будынак паравознага дэпо. Шэсць месяцаў пазней ліквідавалі чыгуначную аптэку. Прыйшла чарга рашаць лёс чыгуначнай медычнай службы. Былі два варыянты: арганізаваць непублічны самастойны асяродак здароўя або перайсці ў структуры Гайнаўскага ЗОЗ. Дырэктар апошняй установы пахадайнічаў за тое, каб пераняць пацыентаў-чыгуначнікаў. Рашэнне здавалася быць лагічным ва ўмовах рыначнай эканомікі: больш падапечных, большыя кантракты з Нацыянальным фондам здароўя. Дырэктар Гайнаўскага ЗОЗ Рыгор Тамашук, ідучы насустрач патрабаванням чыгуначнага асяроддзя, заключае дамову з гмінным самаўрадам і на базе чыгуначнай амбулаторыі ўзнікае Гмінны асяродак здароўя. 11 лістапада 2001 года арганізуецца «белая нядзеля». Прымалі лекары-спецыялісты: Крыстына Лушчынская — інтэрніст-кардыёлаг (103 пацыенты), Раман Альшэўскі — артапед (44), Анджэй Попаў — хірург (25), Іаланта Суліма-Пашкевіч — неўролаг (43). Затым было выкананых 110 меранняў ціску крыві, 78 — цукру, 64 — ЭКГ і 50 абследаванняў грудзей метадам пальпацыі. Гэтыя апошнія рабілі акушэркі і тлумачылі жанчынам, як могуць абследаванні рабіць самі. У агульным падліку было прынятых 215 пацыентаў. Многія адмовіліся чакаць у чарзе, бо трэба было затраціць шмат часу. Не зважаючы на шматлюдны натоўп наведвальнікаў, лекары не пакінулі нікога і да 17 гадзіны праводзілі абследаванні. Не зважалі на тое, што хтосьці ранкам злаўмысна панаўпіхваў запалак у замок уваходных дзвярэй, каб перашкодзіць задуманай ідэі. Прыязджала паліцыя, але мужыкі павыцягвалі з замка запалкі і дзверы адчынілі.

З таго часу зменлівасць лёсу вызначыла ход падзей для медычнай лекарскай апекі над працаўнікамі чыгункі і пенсіянерамі. Пасля «белай нядзелі» ў Чаромху прыязджалі яшчэ некалькі год спецыялісты: артапед, хірург, неўролаг, псіхіятр, гінеколаг і дыябетолаг. З заняпадам чыгункі ўсё адмянілася. Чаромху пакінулі самую сабе з адным лекарам-пенсіянерам. З ліку спецыялістаў надалей прыязджаюць гінеколаг і дыябетолаг. Апошнія адмовіліся. Нягледзячы на гэта, што гміна абавязалася забяспечыць лекара кватэрай з абсталяваннем, у Чаромху ніхто не адважыцца прыехаць, каб прыняць сталую працу. Шматгадовае хадайніцтва лакальнай грамадскасці за другога лекара застаецца безвыніковым. А сямейны лекар-пенсіянер не можа амовіцца і перажывае кашмар. Зараз вымушаны апекавацца 1700 падапечнымі з рознага віду хваробамі. А ў рабочы дзень паводле кантракта абавязаны прыняць адно дваццаць пацыентаў, ды ў нечаканых выпадках аказваць «дамашнія візіты». І таму нельга здзіўляцца, калі людзі хвалююцца. Перанёс я гэта на сабе ў аўторак 9 красавіка, калі намагаўся зарэгістравацца да лекара а восьмай зранку. На мой тэлефон санітарка адказала: «Няма шанцаў... Шмат людзей, усіх не зарэгіструем, затым раю пад'ехаць пасля абеду. Можа доктар прыме».

Так я і зрабіў. Пад'ехаў я на ровары пасля 13-й газіны. У чарзе чакала двое пацыентаў. Іхняе абследаванне заняло лекару паўгадзіны часу. Да мяне далучылася яшчэ адна «непрапісаная» жанчына. Калі лекар убачыў чарговых наведвальнікаў, выгукнуў усхваляваным голасам: «Хопіць мне пацыентаў! Нікога не прымаю». Жанчына хвілінку пачакаўшы, пайшла з нічым. Я застаўся. Санітарка, падміргнуўшы, прашаптала: «Пачакайце». Я застаўся ў прыёмнай. Выйшаў лекар ды запытаў ветліва:

— У чым праблема?

— Частае самавызваленне мачы ўдзень і ўначы, — тлумачу. — Лякарства якое ўжываў не памагло...

Лекар, выслухаўшы, загадаў санітарцы выпісаць рэцэпт на антыбіётык супраць запалення мачавых дарог, затым прыбавіў:

— Пасля дзесяці дзён, як нічога не зменіцца, зробім аналіз мачы...

Я, падзякаваўшы лекару за «пазачарговы» прыём, вяртаюся дамоў. Пасля некалькіх дзён я заўважыў паправу. Дзякуй Богу, усё ўладкавалася. Дыягназ быў трапны. Зараз аднак намагаюся прытрымлівацца прынцыпу: «Шануй здароўе, не будзеш мець клопатаў!».

**Уладзімір СІДАРУК**

ТАМ ПО МАЈОВУЈ РОСІ
Х пудлашско-палескі фестывал традыцыјнуј културы

6 маја
велікодны понедіелок
св. Јурыја

СТУДЗІВОДЫ - 13.00
обходы жыта

грабовіец - 15.00
СТРЫКІ - 16.00
волочебны корогоды

7 маја
велікодны второк

малиннікі - 13.00
обходы жыта на пол'у
15.00
співан'е огул'кув на селіе
16.00
танці традыцыјны в світліці

гості з біелорускохо поліес'а:
ДАРОНОСІЦА ХМІЕЛ'ЕВСКІ ВОЛОЦ'УГІ
ХМЕЛ'ЕВО К. ЖАБІНКІ

господарые:
ЖЕМЕРВА — СТУДЗІВОДЫ
ЖЕВЖЫКІ АНТРАКТ — БІЕЛ'СК ПУДЛ'АШСКІ

# 05.05 — 11.05

**(22.03. — 20.04.)** 6-7.05. хопіць табе запалу, энергіі, справішся з усімі заданнямі. Да 8.05. вялікія змены ў ся'мі. Можа падумаеш аб куплі дома, павелічэнні сям'і або завядзенні... ката? 6-10.05. аграмадны прыліў энергіі, ахвота падзейнічаць. З 9.05. Венера спрыяе ўсялякім завіраванням і зменам; патрактуй гэта як шанц ад лёсу. Асабліва з 9 (да 13.05.) будзь вельмі асцярожны на дарозе, не спяшайся. 10.05. парайся адносна сваіх выбараў.

**(21.04. — 21.05.)** Каханне, каса і... крыху выклікаў. Але 9-11.05. будзеш мець праблемы са сном; самі мінуць. Увесь месяц будуць цябе турбаваць апаскі і няўпэўненасць адносна кар'еры (высветляцца к дабру пад канец мая). 9.05. могуць паявіцца раптоўныя шанцы на большыя заробкі, не праваронь іх. Аж да 15.05. знакамітыя час для інтарэсаў.

**(22.05. — 22.06.)** Не змагайся з падзеямі, плыві з хваляй і мяркуй. 5-15.05. задбай аб ранішнюю разьмінку. 6-9.05. вялікія поспехі ў службовым плане. Блізняты народжаныя да 10.06. маюць шанц сапраўды заблішчэць. 6-10.05. зоркі спрыяюць смелым планам. 7-11.05. могуць быць праблемы ў кантактах, спрэчкі ў пары.

**(23.06. — 23.07.)** Спакой будзе на вагу золата, калі зоркі папіхваюць да спрэчак. Венера (з 9.05.) будзе спрыяць пошукам каранёў. Разбудзіцца бунтарскі настрой у дзецях. З 4 да 8.05. прадбачваюцца кепскія збегі акалічнасцей, што можа прымусіць цябе да змены планаў, якімі лепш не хваліся.

**(24.07. — 23.08.)** Перад табою школа цярплівасці. Здабудзеш усё, калі будзеш дзейнічаць у адпаведны момант. Дзейнічай смела. 5-6.05. разумна расплануй інвестыцыі; ідзі за голасам інтуіцыі. Густая атмасфера ў сям'і, будзеш таксама нецярплівы. З 9 (да 13.05.) ажыўленне кампанейскіх кантактаў, добры момант на змены. У прафесіі спроба сіл, хтосьці з супрацоўнікаў схоча паказаць, хто тут кіруе (можа нават падставіць цябе і абгаварыць).

**(24.08. — 23.09.)** Адчуванне абмежавання, сочкі. Перастанеш быць лагодны, вывалачэш цяжкую артылерыю, схочаш вярнуць свае правілы ў пары. Збунтавацца могуць маладзейшыя члены сям'і. 6-10.05. зоркі павінны ў табе абудзіць веру ў сябе і энтузіязм, здабудзеш павагу атачэння. У першай палове месяца вельмі рэгенеруй арганізм, рэабілітуйся.

**(24.09. — 23.10.)** Цяжкавата будзе з гармоніяй у пары. Шалі без пары не павінны адмаўляцца ад пошукаў; нават калі не знойдзеце каханай асобы, міла правядзеце час са Скарпіёнам ці Быком. Май схопіць цябе ў танец; захаванне раўнавагі будзе выклікам. 9-11.05. пастарайся не паддацца спакусе закупак.

**(24.10. — 22.11.)** Надыходзіць шчаслівы час. Не бойся кахаць і давяраць. Самотныя Скарпіёны слушна разглядаюцца за каханнем свайго жыцця. Калі сустрэнуць яго да зацьмення Сонца (9.05.), то да паўтарэння гэтай з'явы ў лістападзе будуць дакладна ведаць ці гэта напэўна той адзіны і назаўжды. 6-10.05. не дайся змяніць салодкімі слоўцамі. Горшы настрой і жывучасць (да 20.05.).

**(23.11. — 22.12.)** Аж да 20.05. будзеш змагацца са стрэсам. Разгрузі празмерную энергію нейкім утомным спортам ці фітнесам. Да 15.05. будзеш прымушаны да абавязкаў, якіх не любіш. А не ведаеш, што спіш на мільёнах! Паявяцца неверагодныя нагоды для заробку (можа сягні па старыя задумы).

**(23.12. — 20.01.)** 5-6.05. прыліў сілы і энергіі, перамога над цяжкасцямі, могуць паявіцца цікавыя фінансавыя магчымасці. Не ўцякай ад абавязкаў. Добры настрой аж да 20.05. Але ж будуць і турботы з блізкімі і пару нямілых сюрпрызаў, якія стрэляць у цябе як гром з яснага неба.

**(21.01. — 19.02.)** Вясною табой завіруе. Захавай хаця б хадодную кроў. Наладжванне новых знаёмстваў. Настрой ненайлепшы, але кепска будзе. Асабліва дзве першыя дэкады старайся не дагаджаць сабе занадта, але і не патрабуй ад сябе вялікага высілку. Перш за ўсё 9-11.05. будзь асабліва асцярожны, лішне не актыўнічай, пі сокі, адпачывай. Да 7.05. будуць нагрувашчвацца праблемы, але не барукайся з імі.

**(20.02. — 21.03.)** Сапраўды сонечныя дні, расквітнееш і зачаруеш кожнага. 5-6.05. лёс можа да цябе ўсміхнуцца, асабліва ў фінансах. 6-10.05. магчымая вялікая спрэчка з дзецьмі. Масажыст лепшы за антыбіётык.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. буйная млекакормячая жывёла прэснаводных вадаёмаў трапічнай Афрыкі, 2. чацвёрты гук музычнай гамы, 3. дэкаратыўна-лекавая расліна з тоўстым калючым лісцем (*Aloe*), 4. спадчыннае званне вышэйшага дваранства ў Іспаніі, 5. 7 мая 2013 года, 6. Мікалай, расійскі жывапісец (1831-94), 7. кухонная печ з канфоркамі, 8. нагавіцы, 9. пайменаваная вобласць даных у электроннай памяці, 10. між Турцыяй і Саўдаўскай Аравіяй, 11. славянская народнасць, пражываючая на поўначы Польшчы, 12. адлегласць, вызначаная растапыранымі пальцамі, 13. носьбіт хамута.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | 3 | 4 | | | 5 | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | 6 | | | | | | |
| | | | | 7 | 8 | | | | |
| 9 | | | | | | | 10 | 11 | |
| 12 | | | | | 13 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Бойня, ёрш, масць, мур, ніз, рыза, рысь, столь, традыцыя, чужына.

Рашэнне: **Ёсць тры разрады мужчын: разумныя, стройныя і большасць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Лондан: уік-энд у дажджы і нарцысах




Дыяна і Міра с сужонствам Рассакоўскі-Ллойд

(пачатак у № 13)

— Безадкладна патрабую рэдактара, — заявіў з ходу пажылы эмігрант, падобны на англійскага коміка Бені Хіла.

— А што такое?

— Я пасля інсульту, — „Бені”, паклаўшы правую руку на сэрца, сказаў, што ўжо няма чаго чакаць, што яго лепшае заўтра было „ўчора”. І, каб зацікавіць сваёй асобай, з ходу пачаў апавядаць на вясковай гаворцы, недзе ад Жэшава, пра свой разгойданы ўзлётамі і падзеннямі жыццёвы шлях.

— Я раскажу, а ты прыгожа напішаш, — уздыхнуў, сам відавочна ўзрушаны маёй увагай. — Хай будзе для ўнукаў на памятку!

Хоць у час яго маналога я адчула сябе як каменячоска, у якой заказалі надмагільны помнік з ружовага мармуру, я дацаніла ідэю. „Бені” марыў пакінуць сваю біяграфію на роднай славянскай мове для англамоўных унукаў. Прытым ягоны „помнік” у выглядзе прыгожай кніжкі меў шанц набыць несмяротнасць у віртуальнай прасторы і „жыць” да канца свету ў інтэрнэце. Магчыма, уся гэтая размова пра кніжку была яго спосабам і ігрой, каб падчапіць жанчынку-чужаземку. Калі я прапанавала яму звярнуцца да лонданскіх рэдактараў, ён адмахнуўся рукамі і заявіў:

— Мне цікавей працаваць з жанчынай з Беларусі!

* * *

Едучы ў Лондан на свята пазіі, якое ў асноўным праходзіла ў Польскім доме, мы не ведалі як успрымуць нас з беларускай мовай. Аднак, чалавек з Беласточчыны падкаваны на чатыры капыты. Ён адразу сцеміць чаго ад яго чакаюць, патрабуюць. Ад гэтага, менавіта, пачалася камедыя памылак, — ды дзе як не ў горадзе аўтара „Сну ў летнюю ноч” ёй матэрыялізавацца. Як ужо было сказана, мы з Домнай паехалі ў якасці целахоўніц Міры Лукшы. У час першай прэзентацыі, апрача звычайнага прывітання і дзелавой інфармацыі пра газету, мы нават не піснулі пра свае творчыя дасягненні. Тым больш выступленне Міры было каларытным, дасціпным, і ў пэўнай меры закадаваным, неразгаданым. Найбольшая паэтка Цэнтральнай Еўропы — так назвала сябе наша сяброўка (а доказ сказанаму прысутныя мелі ўбачыць голым вокам) — перад тым, як прачытаць твор „Ой як калюча вее вецер з Беларусі”, успомніла караля Уладзіслава Ягайлу.

— *W tym języku właśnie mówił król Polski Władysław Jagiełło!*

Яе адукацыйная заўвага была ўзнагароджана воплескамі і працытавана ў рэцэнзіях. Праз момант я ўявіла, з якой любоўю падобны ньюс адабралі б у нашым „шматкультурным” Беластоку. І ці не пальнулі б у нас правакацыйным запытам, пасля якога трэба сварыцца: *To pewnie i Mickiewicza uważacie za swojego?!*

У Лондане, каб быць партнёрам для размовы пра літаратуру, дастаткова было карыстацца мовай большасці, то-бок, у нашым выпадку, польскай. У справе самога Адама Міцкевіча таксама была адгалоска. Паэтка і журналістка Анна Марыя Міцкевіч у час знаёмства заявіла з гонарам:

— Мае карані з Эстоніі. А прозвішча Міцкевіч па мужу, яго продкі ад вас. З Беларусі.

* * *

Разумеючы псіхалагічную блізкасць беларусаў Беласточчыны і палякаў у эміграцыі, Сакрат Яновіч збудаваў калоны „Вілы Сакратэс”. Сваіх замежных партнёраў ён знаходзіў у інстытутах польскай культуры, славістычных універсітэтах, ці нават у асяроддзі палоніі. Якраз з перспектывы адлегласці і еўрапейскага разумення культуры найбольш відавочная блізкасць і сваяцтва паасобных культур. Я сама прыемна ўражана жывым зацікаўленнем, з якім сустрэлі нас удзельнікі Еўрапейскіх паэтычных дыялогаў.

— *A możemy prosić, aby przeczytała Pani coś jeszcze w tym pięknym białoruskim języku,* — дамагаліся ад Міры ўдзельнікі свята. Спантанны абмен культурнымі кодамі адкрываў на знаёмствы, фантастычныя гутаркі пра літратуру, сентымены. Ужо ў час першых чытанняў уразіла мяне выступленне Тамаша Мяльцарка. У сваіх вострых як лязо лірыках заяўляў пра драму сучаснага чалавека, пра яго самоту і загубленасць у глабальных вёсках, карпарацыях і падманнай выгодзе рэлятывізму. Тамаш, як журналіст брытанскіх часопісаў, свой вобраз чалавека дабыў з сярэдзіны жыцця і гарачых грамадскіх здарэнняў. З цікавасцю чакаю яго першага паэтычнага зборніка.

— Мае продкі таксама з Беларусі, — заявіў Тамаш Мяльцарак. — Яны называліся Вайніловічы і паходзілі з Дзярэчына.

Тамаш не быў у Беларусі, аднак падарожжа ў краіну продкаў сніцца яму па начах. Праўда, паэт быў крыху расчараваны, што Дзярэчын знаходзіцца на Гродзеншчыне, а не дзесьці далёка на ўсходзе, каля Жлобіна ці Магілёва.

* * *

На заканчэнне Еўрапейскіх паэтычных дыялогаў была аргнізавана паэтычна-музычная вечарына ў джаз-клубе, дзе цягам двух гадзін запрэзентавалася каля трыццаці аўтараў. Многія з іх, згодна з сучаснай модай, прачыталі свой верш з мабільніка. Паколькі сустрэчу павяла Марта Брасарт, родам з нашага Гарадка, яна прадставіла Міру Лукшу як паэтку, якую ведае ад заўсёды. Наша паэтка прачытала па-польску твор „Miejsce” z апошняга тома „Biały stok” і беларускія вершы са зборніка „Пад знакам Скарпіёна”. Інфармацыя пра тое, што яна з'яўляецца аўтаркай 11 кніг, здалася неверагоднай, паколькі ў свяце ўдзельнічалі пераважна пачаткоўцы. Прызнаныя паэты з творчым багажом, як наша сяброўка, звычайна працуюць ва ўніверсітэце. Іх роляй з'яўляецца найперш натхняць творчай энергіяй моладзь і студэнтаў.

— Важна, каб яны паказалі свае бунт ці нават шаленства, — кажа Тамаш Мяльцарак, — каб час ад часу ўзбурылі парадак у галаве. Сама школа, нават з найлепшымі прафесарамі, не ў змозе навучыць чалавека пісаць творы з талентам.

Хоць у нашай *незацэнкай* дэлегацыі ніхто асабліва не хваставўся сваімі ўмеласцямі, усё было прыкмечана і ацэненае належным чынам. Пасля выступлення на сцэне, на якую мяне выклікалі праз мікрафоны вядучыя, я зазнала найбольшага прызнання. Да мяне падбег бадзёры дзед, упаў на калені, назваў сябе мільянерам і зрабіў шлюбную прапанову…

(працяг будзе)

## 22 PROGRAM XXXII Międzynarodowego Festiwalu Muzyki Cerkiewnej — „Hajnówka 2013”

Opera i Filharmonia Podlaska, Białystok, ul. Podleśna 2

### OTWARCIE FESTIWALU
### 22.05.2013 (środa) godz. 19[00]

**Chór Uniwersytetu Medycznego w Białymstoku**
pod. dyr. prof. Bożenny Sawickiej
**Chór Studentów Konserwatorium im. N. Rimskiego-Korsakowa w St. Petersburgu**
pod. dyr. Antona Maksimowa

### KONCERT INAUGURACYJNY

*„Krzysztofowi Pendereckiemu — współcześni kompozytorzy”*
wykonuje
**Chór Studentów Konserwatorium im. N. Rimskiego-Korsakowa w St. Petersburgu**
pod dyr. Antona Maksimowa

### PRZESŁUCHANIA KONKURSOWE
### 23.05.2013 (czwartek) godz. 17[00]

**Męski Zespół Wokalny** — Kaliningrad (Rosja)
**Chór Cerkwi Uspieńskiej** — Warszawa (Polska)
**Katedralny Chór „Carmen”** — Białystok (Polska)
**Zespół Solistów „Rostov-Don Art Music”** — Rostów (Rosja)
**Kameralny Chór Dziecięcej Szkoły Chóralnej** — Mieżdurieczieńsk (Rosja)
**Młodzieżowy Chór Kameralny „Eleos”** — Ostróg (Ukraina)
**Chór Męski „Słowiki 60” im. J. Szyrockiego** — Szczecin (Polska)
**Chór Komendy Wojewódzkiej Policji w Białymstoku** — Białystok (Polska)

### 24.05.2013 (piątek) godz. 17[00]

**Dziecięcy Chór „Raduga” Tallińskiego Centrum Twórczości „Kułło”** — Tallin (Estonia)
**Dziecięca Ludowa Kapela Chóralna „Zorinka”** — Tarnopol (Ukraina)
**Dziecięcy Chór Liceum Muzycznego im. Cz. Porumbesku** — Kiszyniów (Mołdawia)
**Chłopięcy Chór Narodowej Akademii Muzycznej Ukrainy im. P. Czajkowskiego** — Kijów (Ukraina)
**Wzorcowy Chór „Sonet” Dziecięcej Szkoły Muzycznej** — Grodno (Białoruś)
**Chór Mieszany „Slavonick Sounds”** — Sofia (Bułgaria)
**Kameralny Żeński Chór Państwowego Koledżu Muzycznego** — Lida (Białoruś)
**Akademicki Chór „Soniacznyj Strum” Państwowej Wyższej Szkoły Muzycznej** — Nikołajew (Ukraina)
**Chór Kameralny Moskiewskiego Państwowego Uniwersytetu Kultury i Sztuki** — Chimki (Rosja)

### 25.05.2013 (sobota) godz. 16[00]

**Chór Męski Towarzystwa Śpiewaczego „Lira”** — Warszawa (Polska)
**Kameralny Chór „Baltika” Sosnowoborskiej Szkoły Sztuk** — Sosnowyj Bor (Rosja)
**Ensemble „QuattroVoce”** — Białystok (Polska)
**Męski Chór „Unia”** — Mińsk (Białoruś)
**Państwowy Chór Naddniestrzański** — Tyraspol (Mołdawia)
**Akademicki Kameralny Chór im. D. Bortniańskiego** — Czernihów (Ukraina)
**Akademicki Kameralny Chór Państwowej Filharmonii** — Kostroma (Rosja)

### ZAKOŃCZENIE FESTIWALU
### 26.05.2013 (niedziela)

**godz. 14[30] Ogłoszenie wyników i wręczenie nagród**
**godz. 16[00] Koncert Galowy**

ISSN 0546-1960